Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 29 (4932) 21 ліпеня 2017 г.



Вандруем па Берасцейшчыне 4



У Малдову — з гітарай і вершамі! 5




«Вянок» Багдановіча па-сербску 7



Скарынаўскі дыспут: п'еса «1517» 15



Трамплін для мастакоў 16

# ВАЛОШКАВЫЯ ЗОРЫ ВІЦЕБСКА

***Пад зорным небам Віцебска, якое калісьці натхніла Марка Шагала ўзняць над горадам знакамітую пару шчаслівых закаханых, штогод пачынаюць ззяць іншыя зоры — зямныя. На дваццаць шостым годзе жыцця Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» можна з гонарам казаць: цягам існавання музычнага спаборніцтва Беларусь наведалі дэлегацыі з 72 краін. Заўважна, не толькі славянскіх: горад над Дзвіной яднае аматараў музыкі і мастацтва з усяго свету.***



Фота БелТА.

*Пераможца XV Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «Віцебск-2017» Марыя Магільная атрымлівае ўзнагароду з рук Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.*



Фота БелТА.

*Уладальнік I прэміі Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2017» Улад Сытнік.*

**Віцебск з аднолькавай гасціннасцю прымае як вялікіх зорак, правераных часам і любоўю гледачоў, так і маленькіх, але таленавітых зорачак, якія толькі пачынаюць узыходзіць на музычны небасхіл. Ці можа быць інакш, калі перад прыхільнай аўдыторыяй поруч з народнай артысткай Грузіі і Расіі Тамарай Гвердцытэлі трымае ўзнагароду юная пераможца дзіцячага музычнага конкурсу Марыя Магільная?**

**— Мы сардэчна прымаем удзельнікаў і прыхільнікаў фестывалю, якія прыбылі з Еўропы, Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі. Гэта красамоўна сведчыць не толькі пра папулярнасць фестывалю, але і пра аўтарытэт Беларусі ў супольнасці нацый, — сказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка са сцэны Летняга амфітэатра падчас цырымоніі адкрыцця фестывалю. — Мастацтва не ведае межаў, яно зближае народы, яднае душы і сэрцы. Пад летнім віцебскім небам сустракаюцца шматлікія сябры з усіх канцоў зямнога шара. Менавіта дзеля гэтага ўспыхнула і вось ужо больш за чвэрць стагоддзя ззяе зорка «Славянскага базару», які ўвабраў у сябе сардэчнасць, дабрыню і найвялікшую гасціннасць беларусаў.**

**Як і людзі ўсіх нацыянальнасцяў, на фестывалі арганічна суіснуюць усе віды мастацтваў. Знаёмыя музычныя гукі абвяшчаюць не толькі пачатак канцэртаў эстраднай песні: у праграме «Славянскага базару» адзначыліся спектаклі, выступы музыкаў і харэаграфічных калектываў, выстаўкі жывапісу, фэст вулічнага мастацтва «На сямі вятрах», а ў цэнтры горада разгарнуўся сапраўдны базар, дзе майстры з ўсіх абласцей Беларусі віталі гасцей вырабамі і пачастункамі.**

**Калі ў вас, шаноўныя чытачы, не атрымалася наведаць святочны Віцебск цягам фестывальнага тыдня, сёння ёсць магчымасць прайсціся па «Славянскім базары» (дзе ўсе шляхі вядуць да мастацтва, міру і ўзаемаразумення), разгарнуўшы старонкі «ЛіМа».**

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

Працяг тэмы на стар. 13 і 15

## Пункцірам

✔ У Мінску 15 — 16 ліпеня прайшоў VII з'езд беларусаў свету міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"», які ладзіцца кожныя чатыры гады. Тэма сёлетняга — «Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа — выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця». Гасцямі і дэлегатамі з'езду сталі беларусы з 21 краіны свету. Прывітаць удзельнікаў прыйшлі прадстаўнікі замежных пасольстваў у нашай краіне. Да працы з'езду далучыліся кіраўнікі дзяржаўных структур Беларусі, у тым ліку міністр замежных спраў Уладзімір Макей, прадстаўнікі Міністэрства культуры і Міністэрства інфармацыі. «Ад 3 да 4 мільёнаў беларусаў жыве за мяжой. Гэта велізарная сіла, кожны з нас можа шмат зрабіць для ўмацавання незалежнай Беларусі», — падкрэсліў Уладзімір Макей.

✔ Факультэт кітайскай мовы і культуры з'явіцца ў новым навучальным годзе пасля першага семестра ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Плануецца, што факультэт прыме амаль 300 студэнтаў, будуць працаваць дзве кафедры: тэорыі і практыкі кітайскай мовы, мовазнаўства і прафесійнай камунікацыі на кітайскай мове. На новым факультэце будуць рыхтаваць выкладчыкаў, перакладнікаў і спецыялістаў па міжкультурнай камунікацыі ў сферы замежнаэканамічных сувязяў, сувязяў з грамадскасцю і міжнароднага турызму.

✔ Нацыянальны банк Беларусі 7 жніўня выпускае ў абарачэнне памятную манету «Шлях Скарыны. Вільня». Сярэбраная манета «Шлях Скарыны. Вільня» серыі «Шлях Скарыны» наміналам 20 рублёў будзе выпушчана тыражом 2 тысячы штук, медна-нікелевая манета наміналам 1 рубль — 3 тысячы штук.

✔ Экскурсію па Крэўскім замку ў фармаце 3D прапануе выстаўка «Замак на перадавой. Да 100-годдзя разбурэння Крэўскага замка падчас Першай сусветнай вайны. Фатаграфіі 1915 — 1917 гг. з калекцыі Уладзіміра Багданава», якая адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Прапануецца разгледзець абарончы будынак з дзесяці розных ракурсаў пры аглядзе ў 360 градусаў. Будуць прадстаўлены і ўнікальныя здымкі з калекцыі У. Багданава, большасць з якіх не публікавалася.

✔ Анімацыйныя стужкі «Беларусьфільма» — «Нянечкіны казкі», «Якія сны сніць мядзведзь» і «Вясна ўвосень» — пазмагаюцца за перамогу ў Сербіі на V фестывалі *Constantine's gold coin* («Залатая манета Канстанціна»). На конкурс даслана каля 600 работ з 65 краін свету, 200 з іх адабраны для ўдзелу ў асноўнай конкурснай праграме. За пяць гадоў існавання міжнародны фэст стаў важнай падзеяй у анімацыі для дзяцей, адным з прэстыжных форумаў, у якім бяруць удзел як навічкі, так і прафесіяналы.

✔ Саламяныя павукі-абярэгі сталі сувенірным брэндам Быхава, а адроджаная традыцыйная тэхналогія іх вырабу ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі. У Быхаўскім раёне сабрана самая вялікая калекцыя павукоў-абярэгаў, якая пастаянна папаўняецца. Мясцовыя майстры асвоілі тэхніку пляцення некалькіх разнавіднасцей «лаўцоў сноў» (пірамідальных, ромбападобных, тэматычных — прысвечаных розным святам).

✔ Сёння і заўтра ў дворыку гатэля «Манастырскі» ў Мінску можна паглядзець нарвежскія кінакарціны: камедыю 2014 года «Скандынаўскі фарсаж» і сіквэл 2016 года «Скандынаўскі фарсаж-2: гонкі на лёдзе». Уваход на сеансы свабодны, пачатак а 21-й гадзіне. «*Open Air Cinema*» — штотыднёвы праект, які стартаваў 14 ліпеня. Вечарамі ў Верхнім горадзе падчас бясплатных кінасеансаў будуць дэманстравацца фільмы розных жанраў.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі



# За прыгожым пісьменствам — у літінстытут

**Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве (заснаваны ў 1933 годзе па ініцыятыве Максіма Горкага) вядомы творцам з розных краін. Многія адораныя асобы менавіта ў гэтай навучальнай установе займелі імя ў літаратуры. Гісторыя інстытута даволі цікавая і займальная.**

Будынак Літінстытута знаходзіцца ў былой гарадской сядзібе, помніку архітэктуры пачатку XIX стагоддзя. У 1812 годзе тут нарадзіўся А. Герцэн. У 1840-х гадах ва ўладальніка дома Д. Свярбеева збіраўся літаратурны салон, які наведвалі М. Гогаль, В. Бялінскі, П. Чаадаеў, М. Шчэпкін. У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя тут знаходзілася выдавецтва братоў Гранат. У 1920-я гады будынак займалі розныя пісьменніцкія арганізацыі. Арганізоўваліся літаратурныя вечары, дзе выступалі У. Маякоўскі, А. Блок, С. Ясенін.

У літінстытуце вучыліся, а пасля і выкладалі, многія расійскія знакамітасці: К. Федзін, К. Паўстоўскі, М. Святлоў, Л. Ашанін, А. Зіноўеў, Э. Асадаў, Ю. Бондараў, Ю. Казакоў. Пад назвай «Дом Грыбаедава» М. Булгакаў згадваў будынак у рамане «Майстар і Маргарыта». Тут вучыліся і многія вядомыя беларускія творцы: Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Уладзімір Глушакоў, Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк...

Літінстытут і сёння застаецца жаданым для тых, хто мае схільнасць да прыгожага пісьменства. У так званым «жывым мемарыяле» па-ранейшаму валадарыць дух высокай творчасці. Ва ўстановы — зайздросны выкладчыцкі склад, які, як кажуць, «умее ставіць на пяро»: у сярэднім на чатырох студэнтаў прыходзіцца адзін выкладчык з навуковай ступенню.

Акрамя таго, сёлета пры Літінстытуце Прэзідэнтам Расіі быў зацверджаны Дом нацыянальных літаратур. Паводле прарэктара па навуковай і творчай рабоце літінстытута Сяргея Дзмітрэнкі, у апошнія дзесяцігоддзе неадночы гучалі прапановы вярнуцца да практыкі развіцця літаратурных стасункаў, якія існавалі ў савецкі час. Зразумела, што сёння ўзаемадзеянне творцаў патрабуе больш сучасных падыходаў. І адзін з напрамкаў, які ўжо абралі маскоўскія прафесіяналы, — беларускі. Менавіта ў асобе нашых літаратараў яны бачаць паплечнікаў, разам з якімі варта больш актыўна весці творчае сяброўства. Сяргей Дзмітрэнка гаворыць, напрыклад, пра магчымасць адраджэння падрыхтоўкі перакладчыкаў з моў народаў Расіі і братэрскіх народаў, у тым ліку і з беларускай.

І вось яшчэ адна прыемная навіна з Масквы: літаратурны інстытут пры падтрымцы структур Саюзнай дзяржавы восенню гэтага года плануе правесці ў Беларусі выязны семінар з прэзентацыяй Дома нацыянальных літаратур пры літінстытуце. У межах гэтага праекта прадугледжана правядзенне круглага стала з прадстаўнікамі творчых колаў Беларусі: перакладчыкамі, філолагамі, маладымі пісьменнікамі. Выбітныя расійскія пісьменнікі запросяць на майстар-класы, выступяць з лекцыямі.

Літінстытут ужо сёння запрашае беларускіх калег падключыцца да шматлікіх конкурсаў, інфармацыя пра якія размешчана на сайце навучальнай установы.

Першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах перакanana, што ўвага да пісьменніцкай арганізацыі знакамітага літінстытута ўнясе новы подых у творчасць беларускіх аўтараў, і мае намер узяць актыўны ўдзел у рабоце Дома нацыянальных літаратур СПБ. Гэта якраз той выпадак, калі варта азірнуцца на мінулае і нават пазайздросціць таму, як праз літаратуру сябравалі пісьменнікі і вучылі сваім прыкладам шчырасці ў стасунках паміж народамі.

**Марыя ЛІПЕНЬ**

## Не абмініце

# КОЛАС: вядомы і невядомы

**Бадай, у фондах кожнага музея ёсць рэчы, якія большую частку часу праводзяць у шафах, фондасховішчах, схаваныя ад вока дапытлівага наведвальніка. Ёсць такія прадметы і ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Але зазірнуць у невядомыя закуткі дазваляе праект «Словы і рэчы: невядомыя калекцыі», прымеркаваны да 135-годдзя песняра. У яго межах не так даўно распачала працу новая экспазіцыя «Мастацкія вобразы роднага краю».**

Тут прадстаўленыя прадметы, рукапісы і мастацкія работы з фондаў дома-музея Якуба Коласа, а таксама з прыватнай калекцыі мастака, кніжнага графіка Міхася Басалыгі.

— Вельмі рэдка мы паказваем на выстаўках адзенне Якуба Коласа. Тут жа можна пабачыць капялюш, гальштук і кашулю, якія насіў паэт. Вельмі рэдка дэманструем і вось гэты кубачак, адзіны з тых, што застаўся з дома Коласа пасля вайны, — распавядае старшы навуковы супрацоўнік музея Наталля Адамовіч. — Калі сын паэта Даніла першы вярнуўся ў Мінск у 1944 годзе і прыйшоў да бацькоўскага дома, што ў той час знаходзіўся ў парку Горкага, то на яго месцы пабачыў толькі яму. Знайшоў аскепкі кубачка, які нашы супрацоўнікі руплівa склеілі.

Невялікая экспазіцыя змяшчае таксама фотаздымкі і рукапісы — праз гэтыя прадметы расказвае пра творчыя стасункі Якуба Коласа з перакладчыкамі яго вершаў на рускую мову. Гэта, напрыклад, Сяргей Гарадзецкі, з якім сябраваў Колас, Яўген Мазалькоў (дарэчы, менавіта яму класік перад смерцю пісаў ліст, які і сёння ляжыць на стале ў яго мемарыяльным кабінеце), Аляксандр Пракоф'еў.

Адметная мастацкая частка выстаўкі. Тут можна пабачыць графічныя работы Міхася Басалыгі, якія ён выканаў для зборніка перакладаў паэзіі Коласа на рускую мову, што пабачыў свет тры дзесяцігоддзі таму, а таксама для выдання «На ростанях», якое выйшла ў 2006 годзе. Так, упершыню шырокай публіцы прадстаўлены арыгінальныя ілюстрацыі да трылогіі. Можна пабачыць, якімі ўявіў Міхась Басалыга прыгажуню Ядвісю, настаўніка Лабановіча.

— Асобнай увагі заслугоўвае партрэт Якуба Коласа, напісаны Міхасём Басалыгам сёлета, — дадае Наталля Аляксандраўна. — Тут мастак паспрабаваў паказаць вобраз класіка ў часы Вялікай Айчыннай вайны, у 1942 годзе. Гэта быў вельмі цяжкі год у жыцці паэта. Ён знаходзіўся ў эвакуацыі ў Ташкенце, сям'я нічога не ведала пра сына Юрку і шукала яго. У нас у фондах ёсць партрэт работы мастачкі Таццяны Жырмундскай, намаляваны менавіта ў дзень нараджэння Коласа ў 1942 годзе. Міхась Басалыга хоць не бачыў паэта ў той дзень, аднак здолеў вельмі добра паказаць яго вобраз.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас адкрыцця экспазіцыі ў музеі Я. Коласа.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**25 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з Таццянай Цехнябедзінай у лагер Уздзенскага раёна ў межах акцыі «Лета з добрай кнігай». Пачатак аб 11-й гадзіне.*

# Спіс аўтараў, твораў і ўстаноў, якія прадставілі заяўкі на Нацыянальную літаратурную прэмію ў 2017 годзе

| Аўтар | Назва твора | Установа, якая прадстаўляе |
|---|---|---|
| **Намінацыя «Проза»** | | |
| Валерый Гапееў | «Ноч цмока» | Выдавецтва «Галіяфы» |
| Анатоль Разановіч | «Палынь-вада» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ, Столінская раённая бібліятэка |
| Наталля Касцючэнка | «Время жатвы и время покаяния» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Наталля Батракова | «Бесконечность любви, бесконечность печали» | НП ООО «Искелент» |
| Людміла Рублеўская | «Авантуры Пранціша Вырвіча, здрадніка і канфедэрата» | РВУ «Выдавецкі дом “Звязда”» |
| Андрэй Дзічэнка | «Сонечны чалавек» | асабіста |
| **Намінацыя «Паэзія»** | | |
| Анатоль Аўруцін | «Просветление» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Ганад Чарказян | «Званы трывогі» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Людміла Кебіч | «Рай для адзіноты» | Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ |
| Аляксандр Сяроў | «Венец природы» | Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ |
| Алесь Жыгуноў | «У храме радасці і смутку» | Віцебскае абласное аддзяленне СПБ |
| Марыя Кобец | «Палыновая квецень» | Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ |
| Віктар Рэчыц | «Паўцарства за ўсмех» | Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ |
| Алесь Пісарык | «Весенний поцелуй» | Секцыя паэзіі СПБ |
| Рагнед Малахоўскі | «Клічнікі дажджу» | Выдавец Андрэй Янушкевіч |
| Таццяна Сівец | «Разняволенасць» | РВУ «Выдавецкі дом “Звязда”» |
| **Намінацыя «Дзіцячая літаратура»** | | |
| Міхась Пазнякоў | «Возера Дзіва» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Анатоль Караленка | «Дзецям пра нафту» | Гомельскае абласное аддзяленне СПБ |
| Яўген Калашнікаў | «Ксюша и её друзья» | Гомельскае абласное аддзяленне СПБ |
| Генадзь Аўласенка | «Малпачка — дачка нябеснага дракона» | Мінскае абласное аддзяленне СПБ |
| Тамара Бунта | «Дзяўчынка з вішнёвага завулка» | Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя М. Багдановіча |
| Мікола Чарняўскі | «Матуля Шо, дачушка Шоша» | Секцыя «Дзіцячая літаратура» СПБ |
| Кацярына Хадасевіч-Лісавая | «Канікулы з прыгодамі, альбо Зваротны візіт Зорнічка да хлопчыка Стасіка» | ДУ «Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г. Мінска» |
| **Намінацыя «Дзіцячая літаратура»** | | |
| Фёдар Гурыновіч | «Галінка дабрыні» | Салігорская цэнтральная бібліятэчная сістэма |
| Іван Муравейка | «Званочкі ў блакіце» | Секцыя дзіцячай літаратуры СПБ |
| Алена Масла | «Мяне завуць Лахнэска» | Выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» |
| **Намінацыя «Драматургія»** | | |
| Васіль Ткачоў | «Характары» | Гомельскае абласное аддзяленне СПБ |
| Зінаіда Дудзюк | «Францыск Скарына. Гістарычныя драмы» | Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ |
| **Намінацыя «Публіцыстыка»** | | |
| Зіновій Прыгодзіч | «Постаці» | Мінскае абласное аддзяленне СПБ |
| Юрый Татарынаў | «Города Беларуси» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Антон Параскевіч (Віктар Уліценка) | «Камнецвет не увядает» | Віцебскае абласное аддзяленне СПБ |
| Уладзімір Ягорычаў | «Истина дороже всего» | Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ |
| Расціслаў Бензярук | «Прытулак для душы» | Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ |
| **Намінацыя «Крытыка — літаратуразнаўства»** | | |
| Мікалай Трус | Цыкл публікацый у часопісе, прысвечаных даследаванню жыцця і творчасці М. Багдановіча | РВУ «Выдавецкі дом “Звязда”» |
| Міхась Мушынскі | «Мае Каласавіны: з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа» | Установа «Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа» |
| Валерый Назараў | Манаграфія. «Тайнапіс Андрэя Мрыя: падтэкст рэалій творчасці пісьменніка» | ДНУ «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі» |
| **Намінацыя «Дэбют»** | | |
| Кацярына Роўда | «Водар белага наліву» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Марына Пашук (Наследнікава) | «Путь в небеса» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Стройлава Кацярына | «Тернистый путь» | Мінскае гарадское аддзяленне СПБ |
| Маргарыта Латышкевіч | «Яблыкі» | асабіста |
| Ксенія Шталенкова | «Адваротны бок люстра» | УП «Мастацкая літаратура» |

**Аргкамітэт конкурсу «Нацыянальная літаратурная прэмія»**

## Дайджэст

• У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася выстаўка «Зора і Вітаўт», прымеркаваная да 90-х угодкаў беларускіх дзеячаў у ЗША Зоры і Вітаўта Кіпеляў. Нават за мяжой яны былі актыўнымі ўдзельнікамі беларускага жыцця: ладзілі нацыянальныя імпрэзы, канцэрты, фестывалі, канферэнцыі, дапамагалі ствараць беларускія фонды амерыканскіх бібліятэк. Багатая творчая спадчына Зоры і Вітаўта Кіпеляў, іх актыўная грамадская дзейнасць сталі падставай і для выстаўкі, якая дазволіць аддаць даніну павагі і падзякі дзеячам, якія ў замежжы шмат зрабілі для радзімы.

• У Беларусі выбралі сацыяльна-адказныя брэнды. Залатым медалістам у аднайменнай намінацыі стаў *velcom*, які атрымаў перамогу за сацыяльна актыўную пазіцыю, што знайшла адлюстраванне ў папулярызацыі беларускай мовы і дабрачыннай дапамозе дзецям. Геаграфія праектаў пастаянна пашыраецца: цяпер яны ахопліваюць не толькі сталіцу, але і рэгіёны. Кампанія дапамагла праверыць зрок у дзясяткаў тысяч сельскіх дзяцей, пабудавала першы ў краіне безбар'ерны дзіцячы стадыён, звярнула ўвагу грамадства на праблему аўтызму. Акрамя таго, для школьнікаў у рэгіёнах былі арганізаваны ўрокі беларускай мовы, а ў кавярнях з'явіліся боксы з кнігамі сучасных аўтараў.

• Сямейнае свята «Адпачынак усёй сям'ёй у Станькава!» адбудзецца 22 ліпеня. Праграму адпачынку падрыхтавалі супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. У праграме — займальныя экскурсіі па экспазіцыі на вольным паветры, знаёмства з баявой тэхнікай і ўзбраеннем часоў Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага перыяду. На спецыяльна абсталяванай пляцоўцы адбудзецца канцэртная праграма: у суправаджэнні сімфанічнага аркестра прагучаць вядомыя песні з мюзіклаў, кінастужак і мультфільмаў.

• Пераможцам 28-га фестывалю маладой беларускай музыкі «Басовішча», які праходзіў у Польшчы, назвалі мінскі арт-рок-гурт *Teleport*. Калектыў быў заснаваны ў 2012 годзе, а праз тры гады выдаў дэбютны альбом «Маўкліва» з песнямі на беларускай і англійскай мовах, натхнёўшыся творамі *The Beatles*, Гары Нілсана, *Queen* і *The Beach Boys*. Перамогу на «Басовішчы» *Teleport* атрымаў за смеласць, наватарства, разнастайнасць і складанасць музыкі. На мінулым тыдні музыканты выступілі з канцэртамі ў Гродне, Лідзе і Мінску, а цяпер артысты рыхтуюцца да запісу другога альбома.

• Сталі вядомыя намінанты прэстыжный амерыканскай прэміі «Эмі-2017» — галоўнай тэлевізійнай узнагароды планеты. Барацьбу за статуэтку вядуць камедыйныя, драматычныя серыялы, рэаліці-шоу, а таксама акцёры і актрысы. Галоўнай інтрыгай застаецца намінацыя «Лепшы драматычны серыял», у якой сёлета прадстаўленыя самыя цікавыя і папулярныя серыялы «Лепш тэлефануйце Солу», «Карона», «Апошні служанкі», «Картачны домік», «Вельмі дзіўныя справы», «Гэта мы» і «Свет Дзікага Захаду». Пераможцы прэміі будуць названыя на цырымоніі ўзнагароджання, якая адбудзецца 17 верасня.

## ЛіМ-каляндар

**17 ліпеня** — 110 гадоў з дня нара джэння Арона Юдэльсона (1907 — 1937), беларускага паэта, нарысіста. Пісаў на ідыш.

**17 ліпеня** 75-гадовы юбілей святкавала Любоў Турбіна, беларуская паэтэса, літаратуразнаўца, перакладчык. Піша на беларускай і рускай мовах. Жыве ў Маскве.

**18 ліпеня** 80 гадоў адзначыў Уладзімір Міхарскі, беларускі рэжысёр тэлебачання.

**20 ліпеня** — 95 гадоў з дня нараджэння Георгія Волкава (1922 — 2000), беларускага акцёра, рэжысёра, педагога, народнага артыста БССР.

**20 ліпеня** — 85 гадоў з дня нараджэння Леаніда Мартынюка (1932 — 2013), беларускага кінарэжысёра, кінасцэнарыста, журналіста.

**21 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Леаніда Быкава (1927 — 2004), беларускага мастака.

**21 ліпеня** 70-годдзе святкуе Барыс Кір'янаў, беларускі харавы дырыжор, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.

**22 ліпеня** — 165 гадоў з дня нараджэння Марыі Магдалены Элізы Бутаўт-Андрайковіч (1852 — 1933), беларускага жывапісца.

**22 ліпеня** — 100 гадоў з дня нараджэння Алега Шкапскага (1917 — 1968), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**22 ліпеня** 85 гадоў святкуе Леанід Яўменаў, беларускі паэт, філосаф.

**22 ліпеня** 75-годдзе адзначыць Тамара Гаробчанка, беларускі тэатразнаўца.

**22 ліпеня** 75-гадовы юбілей святкуе Рыгор Сурус, беларускі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

**22 ліпеня** 70 гадоў адзначае Ігар Тапілін, беларускі мастак-пастаноўшчык.

# КІРМАШЫ І СЯДЗІБЫ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ

**На поўдні Беларусі падарожнікаў заўсёды сустрэнуць добразычліва: дазволяць сфатаграфавацца ля хаты, распавядуць пра родныя мясціны, пачастуюць яблыкамі ці іншай садавіной...**
**Каб пераканацца ў гэтым, прапануем наведаць гасцінную Берасцейшчыну.**

## 1. БУСЯЖ (ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН)

Вёска Бусяж з сярэдзіны XVI стагоддзя сустракаецца ў вопісах войска Вялікага Княства Літоўскага. У той час Бусяж лічылася баярскім сялом. Баяры мелі пэўныя надзелы зямлі. Калі ж распачыналася вайна, па першым выкліку яны з'яўляліся з канём і зброяй, каб бараніць інтарэсы Айчыны.



*Свята-Успенская царква ў Бусяжы.*

Найбольш заможнымі ў Бусяжы лічыліся Юндзілы і Мялешкі. І хаця радавое гняздо Мялешкаў было на Слонімшчыне, менавіта ў Бусяжы, на думку большасці гісторыкаў, нарадзіўся знакаміты Іван Мялешка, імя якога згадваецца сёння ў сувязі з літаратурным творам пад назвай «Прамова Мялешкі», трапна напісаным старабеларускай мовай.

Бусяжскі маёнтак змяніў не аднаго гаспадара, пакуль у 1648 годзе не перайшоў у рукі Казіміра Сапегі, падканцлера ВКЛ, малодшага сына Льва Сапегі. Малодшы Сапега запрасіў сюды з Францыі адзін з самых загадкавых каталіцкіх ордэнаў — ордэн картузіянцаў.

Картузіянцы жылі ў асобных доміках з невялічкімі агародамі, што разам з касцёлам складалі кляштар. Манахі займаліся медытацыяй, тэалагічнымі і навуковымі штудыямі, а таксама ручной працай і рамёствамі.

У 1779 годзе на месцы старой уніяцкай царквы картузіянцы пабудавалі новы касцёл. Але да таго часу Беларусь апынулася ў Расійскай імперыі. Новым уладам незалежны ордэн не спадабаўся, і супраць картузаў распачалі судовую справу.

У 1831 годзе кляштар картузіянцаў быў закрыты, але бусяжскі касцёл манахі паспелі перадаць уніятам. Сёння тут знаходзіцца Свята-Успенская праваслаўная царква, якая дзейнічала і ў часы савецкай улады.

## 2. ВЯРХОВІЧЫ (КАМЯНЕЦКІ РАЁН)

З другой паловы XVI стагоддзя Вярховічы належалі шляхцічам Копацям. Копаці мелі вялікую гаспадарку і займаліся нарыхтоўкай харчоў для войска Вялікага Княства Літоўскага. У 1740-х гадах Вярховічы пераходзяць да роду Сапегаў. Пры Сапегах паселішча славілася кірмашамі, дзе гандлявалі каровамі, валамі ды іншай худобай.

У першай палове XIX стагоддзя з'яўляюцца новыя гаспадары, шляхцічы Роты. Ім Вярховічы належалі да 1939 года. Роты заклалі новы сядзібны дом, вакол якога быў цудоўны парк. Да нашага часу захавалася невялічкая афіцына, што стаяла адразу за домам. А на мясцовых могілках можна агледзець склеп-пахаванне роду Ротаў.

Як і ў шляхцічаў Копацяў, у Ротаў было шмат гаспадарчых пабудоў. З іх захаваўся бровар (1908) і склад, зроблены з колатых валуноў, на якім відаць дата пабудовы — 1935 год.

У 1878-м Іван Рот арганізаваў у маёнтку ферму, дзе займаліся развядзеннем буйной рагатай жывёлы. Каровы з Вярховіч неаднойчы былі на выстаўках і конкурсах і прывозілі медалі, сумленна зробленыя на конкурсах прыгажосці і аддачы масла, смятаны і малака.

Вярховічы было мястэчкам, цэнтрам Вярховіцкай воласці, Брэсцкага павета, Гродзенскай губерніі. З тых часоў захавалася праваслаўная царква Святога Цудатворцы Мікалая, збудаваная ў 1933 годзе як касцёл.

## 3. КРЫВОШЫН (ЛЯХАВІЦКІ РАЁН)

Крывошын доўгі час належаў роду Ільінічаў. А потым маёнтак паводле тэстаменту перайшоў да Мікалая Крыштафа Радзівіла па мянушцы Сіротка. Мікалай Радзівіл Сіротка быў адным з найбуйнейшых магнатаў Рэчы Паспалітай. Ён здабыў славу на полі бою, да таго ж быў вельмі пабожным. Таму падараваў маёнтак Нясвіжскаму калегіуму езуітаў, і ў 1670 годзе манахі пабудавалі тут першы касцёл.

Хутка высветлілася, што для ўсіх ахвотных трапіць сюды на імшу месца не хапае. І ў 1740 годзе ў Крывошыне з'явіўся новы касцёл. Вялікі, цагляны. Пры ім езуіты стварылі прытулак для сірот, шпіталь для старых і хворых, школку для дзетак… Але ў 1820 годзе езуітаў выгналі, пасля паўстання Кастуся Каліноўскага храм закрылі, а потым у Крывошын прыбыў архітэктар, які распачаў перабудову касцёла пад праваслаўную царкву.

Пачалі збіваць элементы барока, рабіць аркі, ламаць вежы і ставіць на іх купалы-цыбуліны, якіх у нашым праваслаўным дойлідстве ніколі не было… Сёння будынак — царква Пакрыва Найсвяцейшай Багародзіцы. Але і цяпер відавочна, што гэта колішні касцёл, бо інтэр'ер храма захаваў барочную пластычнасць і манументальнасць.

## 4. ВІСТЫЧЫ (БРЭСЦКІ РАЁН)

Самы значны след у гісторыі гэтага паселішча пакінулі Тышкевічы. У 1678 годзе падкаморы брэсцкі Яўстафій Тышкевіч пабудаваў тут мужчынскі кляштар і запрасіў манахаў ордэна цыстэрцыянцаў.

Пад канец XVII стагоддзя пры кляштары ў Вістычах цыстэрцыянцы ўзводзяць мураваны касцёл і асвячаюць у гонар Святой Сафіі. Напачатку будынак нёс адбітак італьянскага барока, хаця ў ім можна было адзначыць і манументальную прастасць, характэрную для беларускага дойлідства. Але пасля паўстання Кастуся Каліноўскага касцёл быў закрыты і перададзены праваслаўным. У ім зрабілі рамонт на праваслаўны манер. І ў 1866 годзе пераасвяцілі ў гонар Узвышэння Крыжа Гасподняга. Праваслаўная Крыжаўзвіжанская царква тут знаходзіцца па сёння.



*Крыжаўзвіжанская царква ў Вістычах.*

Некалі ў касцёле захоўваўся цудадзейны абраз Маці Божай Вістычыцкай. У пошуках ацалення да яе ехалі адусюль. З гэтым абразом звязана выздараўленне знакамітага пісьменніка, гісторыка і палітычнага дзеяча Юльяна Нямцэвіча (1757 — 1841), які сур'ёзна хварэў у дзяцінстве. У Вістычах захавалася каменная калона, якую некалі ўпрыгожвала скульптура Маці Божай. Кажуць, што гэтую калону ўзвёў бацька Юльяна Нямцэвіча.

Юльян Нямцэвіч шмат пісаў пра Беларусь, якую любіў і за якую змагаўся. У мемуарах неаднойчы згадваў Вістычы і мясцовых манахаў. Цыстэрцыянцы мелі добрую гаспадарку. Правялі меліярацыю, вырошчвалі вінаград і выраблялі віно, не горшае, чым у іх братоў у Бургундзіі.

Напрыканцы XVIII стагоддзя ў Вістычах уладарыў Павел Ягмін, які збудаваў шыкоўны палац. Кажуць, там былі прыгожыя кафляныя печы, упрыгожаныя маляўнічым арнаментам. За польскім часам печы вывезлі ў нацыянальны музей Варшавы. А палац быў знішчаны яшчэ падчас Першай сусветнай вайны і больш не аднаўляўся.

## 5. ЛЯХАЎЦЫ (МАЛАРЫЦКІ РАЁН)

У 1546 годзе Ляхаўцы былі цэнтрам Ляхаўскага войтаўства, Палескай воласці, Берасцейскага павета. Гэтае войтаўства займала ці не большую палову тэрыторыі сённяшняга Маларыцкага раёна.

Па мясцовай легендзе, жыхары вёскі Ляхаўцы будавалі храмы ўжо ў канцы X стагоддзя, адразу пасля таго, як князь Уладзімір у 988 годзе ахрысціў Украіну. Кажуць, што ў 1010 годзе Уладзіміра-Валынскі епіскап Стэфан Другі асвяціў першую ляхаўскую царкву. Да нашага ж часу захавалася старажытная драўляная царква Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы, збудаваная ў 1713 годзе.

Калі закладаюць царкву, першы камень кладуць на ўсход і пазначаюць на ім год і імя таго, хто высвячаў месца. Другі запіс закладаюць у прастол, на камені, трэці — запіс, як пабудуюць царкву, пішуць пад крыжам у купале. Калі быў рамонт царквы, пад купалам знайшлі бярвенца з надпісам «1010 год». Паленца даўжынёю паўтара метра, і на ім быў замацаваны крыж. Такім чынам, у сценах гэтай царквы ёсць бярвенні, якім больш за 1000 год.

Ёсць у Ляхаўцах яшчэ адзін помнік драўлянага дойлідства — Свята-Мікольская царква (1835), якая месціцца на вясковых могілках.

## 6. НАЧА (ЛЯХАВІЦКІ РАЁН)

На старонкі летапісаў Нача патрапіла ў XV стагоддзі як уладанне шляхцічаў Неміровічаў. Але даўжэй за ўсіх тут гаспадарылі манахі ордэна езуітаў, якім Нача належала да паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Расквітнела ж вёска пры шляхціцах Чарноцкіх.

У 1810 годзе сын Францішка Ксаверыя Міхал Чарноцкі заклаў тут сядзібу. Праз пяць гадоў у Начы з'явіўся палац, які пазней, у 1910 годзе, унукі Міхала захацелі бачыць больш сучасным і запрасілі з Пецярбурга славутага архітэктара Крыжаноўскага. Усё, што ён тады зрабіў, цудоўна захавалася дагэтуль.

У палацы прайшлі дзяцінства і юнацтва знакамітага беларускага публіцыста і перакладчыка Напалеона Чарноцкага. Падчас вучобы ў Слуцкай гімназіі разам з сябрамі ён напісаў і выдаў па-беларуску рэвалюцыйную брашуру «Дзядзька Антон». Займаўся вершаванымі перакладамі, пісаў і друкаваў артыкулы пра беларускую мову... Напалеон Чарноцкі скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта і далучыўся да рэвалюцыйнага руху, за што ў 1890 годзе быў высланы пад нагляд паліцыі на радзіму, у бацькаў маёнтак Начу Брындзоўскую. Але ад сваіх ідэй не адмовіўся.

Напрыклад, калі пра падпольную друкарню, створаную Юзафам Пілсудскім у Ліпнішках, даведаліся царскія ўлады, Напалеон Чарноцкі з сябрам сабраў друкарню ў скрынкі і перавёз у Начу, а пасля — у Мір, дзе займаўся лекарскай практыкай. І захоўваў там усе паперы і абсталяванне, пакуль друкарню не забраў будучы Прэзідэнт Польшчы Станіслаў Вайцяхоўскі.

Не дзіва, што жыццё Напалеона Чарноцкага склалася менавіта так: у Начу часта прыязджаў сябар яго бацькі, вядомы фалькларыст і этнограф Міхаіл Федароўскі. Бацька ж Напалеона, Казімір Чарноцкі, быў удзельнікам паўстання Кастуся Каліноўскага. У сваім парку ён пасадзіў 12 лістоўніц — у памяць пра сяброў, якія загінулі. Ставіць помнікі паўстанцам было забаронена, і ў парку Чарноцкіх з'явіліся дрэвы і валуны, якім Казімір Чарноцкі даў імёны сяброў… Праўда, на сённяшні час захавалася толькі пара тых камянёў і некалькі лістоўніц.

Нельга не згадаць і Марыяна Фальскага, які на пачатку XX стагоддзя стаў знакамітым польскім вучоным, а пачынаў на Беларусі як публіцыст і перакладчык пад псеўданімам Янка Сваяк. Нарадзіўся ён у Начы, якая стала малой радзімай для многіх вялікіх людзей.

**Юрый ЖЫГАМОНТ**



*Сядзіба Чарноцкіх у Начы.*




# ТВОРЧЫ ПАРТРЭТ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСКІХ ПАЭТАЎ

## у інтэр’еры культурнай прасторы чатырох дзяржаў

*Каля помніка Аляксандру Пушкіну ў сяле Долна.*

### Тэза 1. Ці чулі вы пра «Мінскую ініцыятыву»?

Для тых, хто не ведае, падкажам, што нарадзілася «Мінская ініцыятыва» летась у Сілічах. Гуртуе, як правіла, маладых пісьменнікаў Беларусі, Малдовы, Украіны і Расіі (але могуць далучацца і прадстаўнікі іншых краін). Арганізатары — некамерцыйны Фонд сацыяльна-эканамічных і інтэлектуальных праграм (Фонд СЭІП) пры падтрымцы Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях і пры ўдзеле Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД.

Леташні форум у Мінску прайшоў, што называецца, на ўра. А сёлета, у разгар лета, халоднага для беларусаў, расіян і ўкраінцаў, а для гаспадароў — у самы прыпар цяпла, Фонд СЭІП ладзіў такі міжнародны фестываль ужо ў Малдове — недалёка ад Кішынёва. Сустрэча атрымала даволі амбітную назву — «Час вялікіх спадзяванняў» («Время больших ожиданий»). Сімвалічна, што фестываль «Час вялікіх спадзяванняў» прайшоў у Малдове адразу пасля таго, як Беларусь наведалі Прэзідэнт Малдовы Ігар Дадон і Прэм’ер-міністр Малдовы Павел Філіп.

Фестываль — свята, нястрымнае выкрасанне весялосці, радасці сяброўскіх сустрэч і... кахання. А як на форуме праходзілі "гарачыя будні" маладых паэтаў, як выглядае маладая літаратурная змена Беларусі на фоне іншых творчых дэсантаў з Расіі, Малдовы, Украіны? Ці можам мы ганарыцца маладымі талентамі таксама яшчэ вельмі маладой Беларусі? Упэўнены: можам і абавязаны. Краіна павінна ведаць сваіх герояў. Нездарма амаль усе тыя маладыя творцы — сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі. З такім папаўненнем айчынную пісьменніцкую суполку можна толькі павіншаваць!

### Тэза 2. Пра каманду. Час выйсці з ценю.

Так кажуць на Захадзе. На Усходзе (вуснамі найперш Мікіты Міхалкова) — сціпласць — прамы шлях у невядомасць. У Беларусі кажуць, што гэта за хлопец ці дзяўчына, якіх трэба паказваць. Трэба, каб пыталіся: «Чый гэта, чыя гэта, такія ўдалыя?» Маладая каманда падабралася сапраўды ўдала. Кожны з удзельнікаў мог прасláваць (калі была нагода) у песнях, а таксама «ўзяць агонь на сябе» ў чытанні вершаў, ды разам не адну гадзіну трымаць у зацікаўленым напружанні ўвесь фестывальны бамонд: днём — на майстар-класах, творчых сустрэчах, у дыскусіях і круглых сталах, а на сыходзе дня — не адзін вечар і нават не адну цёплую малдаўскую ноч выконваючы ўласныя вершы ды беларускія народныя і бардаўскія песні ў пансіянаце «Дачыя Марын» (горад Вадул-луй-Водэ, за 25 кіламетраў ад Кішынёва).

Беларуская дэлегацыя была заўважная ва ўсім: у песнях, вершах, культурнай праграме. Так, эпатажны паэт і празаік Дзмітрый Юртаеў калі і чытаў беларускія вершы на публіку, дык толькі з-пад самай столі, стоячы на двух крэслах ці на лесвіцы. Алена Басікірская — лагодная і разам з тым актыўная ў вершаскладанні і перакладах на беларускую мову (чаго вартае адно перастварэнне верша Канстанціна Сіманава «Жди меня»!), душэўная і адкрытая, сапраўдная паэтка з глыбінкі, супрацоўніца раённай газеты «Міёрскія навіны». Людміла Клачко, паэтка са сваім «цвятаеўскім» позіркам на рэчаіснасць, мроістая, таямнічая, амбіцыйная, — выпускніца Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Рэдакцыйна-выдавецкая дзейнасць», дзе кадры рыхтуе і знаны арганізатар алімпіяд па беларускай мове Уладзімір Кулікович. У дэлегацыі СПБ — і лаўрэат прэстыжных прэмій, конкурсаў у Брэсце, Маскве, Мінску, выпускніца фізфака БДУ, фізік-радыёлаг Таццяна Купрыянец. Паэтка і празаік Яна Явіч да ўсяго актыўна піша пра літаратурнае жыццё краіны. Варта падкрэсліць і ўдзел Ганны (Ханны) Чумаковай з Віцебска, якая прыехала на форум, як і належыць выканаўцу ўласных беларускамоўных бардаўскіх песень, з гітарай і незвычайным музычным інструментам, які гучаннем нагадвае музыку дажджу (усё гэта ніколечкі не замінала паэтцы ў вандроўцы, нягледзячы на чатырохразовае перасячэнне дзяржаўных межаў, — дарэчы, дарога цягніком толькі ў адзін бок займала амаль 26 гадзін!).

У фестывальнай праграме — памерам у 40 старонак — можна было знайсці біяграфіі і інфармацыю пра творчыя набыткі ўсіх удзельнікаў, штодзённы расклад працы семінараў па прозе, паэзіі, а таксама творчых сустрэч і дыскусій. Праграма выконвалася скрупулёзна. Надзвычай цікавым стала наведванне сядзібы памешчыка Ралі ў сяле Долна, дзе гасцяваў калісьці А. С. Пушкін, які пасля стварыў паэму «Цыганы». Шмат старадаўніх артэфактаў і ў музеі паэта.

### Тэза 3. Каб ведаць, што робіцца ў тваім сяле, трэба пабываць у суседнім.

Самымі «забойнымі» ў межах семінара атрымаліся майстар-класы па паэзіі: кіраўнікі, сярод якіх — старшыня Асацыяцыі рускіх пісьменнікаў Малдовы Алеся Рудзягіна, паэты Марыя Ватуціна ды Андрэй Каровін (Расія) і Уладзімір Кадэнка (Украіна), ды самі ўдзельнікі, часам каменя на камені не пакідалі ад паэтычных экзерсісаў калег па пяры. Здараецца, што аўтар збірае залы, калі пад гітару выконвае песні на ўласныя вершы, а пры дэталёвым разборы на майстар-класе аказваецца, што яго творы «рассыпаюцца», не ўражваюць, не пакідаюць значнага следу ў душы і, што яшчэ горш, грашаць тэхнічнымі, рытмічнымі хібамі. Пытанням паэтыкі верша і паэтычнага выказвання, праблемам літаратуразнаўства і лінгвістыкі надавалася асаблівая ўвага. Кожны майстар-клас садзейнічаў узбагачэнню паэтычнай культуры, засваенню канкрэтных пытанняў слоўнага мастацтва. Асабліва ж каштоўным стаўся аналіз адметнасцей канкрэтнага верша і выкарыстання вобразна-выяўленчай палітры, свежасці і навізны зместу. Тут беларускія паэты зарэкамендавалі сябе гожа і адметна. Можа, нават за кошт таго, што амаль кожны з іх прадставіў на «высокі суд» свае творы на роднай мове. Прыкладам, Алена Басікірская прапанавала не толькі ўласныя вершы, але і пераклады на беларускую, з якіх у яе можа выйсці ладная кніжка. Заслугоўвае асаблівай увагі і выданне Ганны Чумаковай «БлокNot.Интим», якое пабачыла свет якраз сёлета. Праз свае пачуцці, думкі, эмоцыі, меркаванні паэтка імкнецца сцерці і без таго ілюзорную мяжу паміж чытачом і пісьменнікам, творцам і тэкстам, «пертварыць прамую ў прамень», каб стаць эмоцыяй мастака, які ў кожным радку «дыхае ва ўнісон» са сваім чытачом. Гожа прадставілі сваю творчасць Людміла Клачко і Тацяна Купрыянец.

### Тэза 4. Нельга выцягваць усходы рукой, каб яны хутчэй раслі.

Майстар-класы па прозе выдаліся меней драматычнымі і займалі больш часу. Мастацкія творы (эсэ, апавяданні, аповесці, раманы ці ўрыўкі з іх, творы для дзяцей) загадзя дасылаліся ўдзельнікам семінара па электроннай пошце, таму і разгляд іх атрымліваўся больш падрабязным і грунтоўным. Тон тут задавалі доктар філалагічных навук, прафесар кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі і публіцыстыкі факультэта журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. Ламаносава Уладзімір Новікаў, празаік, намеснік загадчыка аддзела прозы часопіса «Новый мир» Вольга Новікава, пісьменнік Андрэй Дзмітрыеў і аўтар гэтых радкоў. Ад беларускай дэлегацыі разглядалася неардынарная «рубленая» проза Дзмітрыя Юртаева, частка кнігі для дзяцей Яны Явіч «Уцёна хоча ведаць», а таксама ўрыўкі з рамана Максіма Маткоўскага (Украіна), апавяданні цікавага і няўрымслівага студэнта з Украіны Сяргея Савіна, сцэнарыста, кінадраматурга Жэні Дзекінай з Масквы, проза для дзяцей Таццяны Арловай-Валошынай з Кішынёва, літаратурнага крытыка Уладзіміра Каркунова, проза рэжысёра і актрысы Леры Чабатаровай.

Леў Талстой гаварыў, што, калі ён апускаў пяро ў чарнільніцу, выцягваў адтуль кавалачак уласнага сэрца, «кропельку ўласнай крыві». Такое патрабаванне было і да твораў удзельнікаў фестывалю.

### Тэза 5. Ці можна вывучыцца на пісьменніка?

Што маглі дадаць да праяўлення таленту тыя тры-чатыры дні літаратурнай вучобы? Калі занятак літаратурай называць прафесіяй, дык неабходна дадаць, што гэта прафесія, якую выбіраем не мы, а якая сама нас выбірае. Пішуць тады, калі не могуць не пісаць. У нашы дні да сапраўднага таленту даўно перасталі ставіцца як да самароднага золата. Варта перагледзець нашы падыходы да таленавітай і па-сапраўднаму адоранай літаратурнай моладзі. Калісьці падчас сустрэчы са студэнтамі Літінстытута ў Маскве празаік Міхаіл Прышвін выказаў думку пра мастацтва як самаадчуванне, як стан душы, як паўсядзённыя паводзіны — не ў тэатры, не на вуліцы, не сярод гасцей... Калі ты вырашыў займацца літаратурай не толькі ў часы адпачынку, калі гэта для цябе не простае баўленне часу, рабі ўсё мажлівае, каб яна была для цябе не проста прыгожым заняткам, ствары біяграфію, жыві адным жыццём са сваімі героямі, будзь не назіральнікам падзей, а іх непасрэдным удзельнікам. Каб апынуцца не на ўзбочыне, а ў цэнтры жыцця.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

# «РАСЧАРАВАЛЬНЫЯ» ТЭНДЭНЦЫІ Ў СУЧАСНАЙ ПРОЗЕ

**Пяты нумар «Маладосці» давялося чытаць на Троіцу — прыгожае дабрадатнае хрысціянскае свята, калі лета толькі-толькі бярэцца ў сілу і цешыць зелянінай... Адной з адметных публікацый нумара стала падборка апавяданняў Сяргея Шаматульскага, маладога празаіка з Оршы. Сяргей піша лаканічна і «зусім крыху», толькі пра тое, што вярэдзіць, — а таму кожнае слова ўзважанае, і творы закранаюць.**

Напрыклад, «Ножкі»: «Усё ў яе было добра, толькі ножкі адсутнічалі. Замест туфлікаў ды боцікаў — коўдры каляровыя, улетку — прасціна або тонкі плед...». Жанчына-«калека» працуе ў фотаатэлье, умее рабіць здымкі «з мантажом», што прываблівае кліентаў. Находзіць час, калі фотаатэлье закрываюць, фатографа звальняюць з працы. Рэчы «калекі» выкідаюць, і побач з праяўляльнікам ды плёнкамі на сметнік трапляюць «здымкі жанчыны, заўсёды адной, але рознага ўзросту, з якой быццам бы ўсё добра, толькі ножкі выглядалі дзіўна, нібы былі прыстаўлены ад іншага, больш здаровага, цела». Гэта апавяданне нагадвае пра фобіі і навязлівыя ідэі, якія жывуць у нашай падсвядомасці, і напрыканцы па скуры прабягае халадок — як пасля чытання Эдгара Алана По... У невялічкім — на старонку — апавяданні аўтар азначае і адзіноту жанчыны, і яе адсланёнасць ад свету (безуважнага да гераіні, як і ў іншых апавяданнях С. Шаматульскага). Гэтыя творы, напісаныя па-майстэрску, тым не менш, не вельмі стасаваліся са святочным настроем, і роздумы над гэтай неспалучальнасцю сталі нагодай для наступнага эсэ.

...Аналізуючы літаратурныя творы, даследчыкі вылучалі чатыры, сем, трыццаць шэсць тыпаў сюжэтаў. Да кароткага спіса, напрыклад, Крыстафера Букера (прыгода; перамога над монстрам; «з бруду ў князі»; «туды і сюды»; камедыя; трагедыя; уваскрэсенне) можна дадаць сюжэт, надзвычай арганічны для беларускай літаратуры, — расчараванне. У многіх і многіх творах сучаснай прозы галоўны герой расчароўваецца ў жыцці, бо трапляе ў складаную сітуацыю, а чытач з першых старонак апынаецца ў змрочным свеце невырашальных праблем. Аповеду-расчараванню з «вялікага» спіса Жоржа Польці адпавядаюць «маленне», «праслед», «неспадзяваная бяда», «ахвяра», «фатальная неасцярожнасць», «страта блізкіх»... Гэтыя сюжэты можна разумець не толькі літаральна. Так, сюжэт «страта блізкіх» пасуе да апавядання С. Шаматульскага «Юра» дзе акцэнтуецца напружанае перажыванне галоўным героем (зноў інвалідам) сваёй адмежаванасці ад маці.

Апавяданні меланхалічнага ладу пачалі з'яўляцца ў айчыннай літаратуры яшчэ ў часы «Нашай Нівы». Для дарэвалюцыйнай прозы ўласцівая крытыка сацыяльнага ладу, але ёсць тут і нешта большае: вусціш перад недасканаласцю быцця, дзе цемра так часта перамагае святло (як у апавяданнях Змітрака Бядулі «Ашчасліўіла», Максіма Гарэцкага «Маці»), тонкая фіксацыя супярэчлівасці чалавечай натуры — калі з адлегласцю ў некалькі гадзін ён можа быць прыгнечаным і прыгожым, злым і шчодрым, незадаволеным і зычлівым (як у апавядані Максіма Гарэцкага «Зіма»).

*На шчасце, у наш час кожны аўтар можа свабодна вызначаць сваю творчую канцэпцыю. Але хацелася б, каб беларускія пісьменнікі часцей ішлі насустрач аўдыторыі, а значыць, пазбягалі глыбокага песімізму. Гэта зусім не прапанова друкаваць адным мезенцам просценькую гісторыю з хэпі-эндам — магчымых варыянтаў нашмат больш. Цікавы прыклад у гэтым сэнсе — творы сучаснай кітайскай прозы, дзе герой змяняе стаўленне да асоб ці акалічнасцей, якія выклікалі адмоўныя эмоцыі, што адбываецца паступова на працягу расповеду.*

Савецкая эпоха прымусіла творцаў быць больш аптымістычнымі, але сучасныя празаікі надзвычай часта звяртаюцца да «расчаравальных» сюжэтаў, што мае нямала прычын.

Згадаем, што наша краіна займае першыя пазіцыі ў сумных статыстычных рэйтынгах (алкагалізм, самагубствы, разводы…). Па-першае, гэта выразна сведчыць пра схільнасць беларусаў засяроджвацца на адмоўным і вельмі часта не заўважаць станоўчага. Па-другое, беларусам, відавочна, не так і проста знаходзіць сілы, каб вырашыць жыццёвыя праблемы, да таго ж не заўсёды атрымліваецца ўбачыць магчымасці іх вырашэння. Усё гэта адлюстроўваецца ў змесце і настраёвасці літаратуры. Зрэшты, песімізм сучасных творцаў адпавядае і агульнай грамадскай атмасферы...

Безнадзейнасць нярэдка ахінае пры чытанні прозы Алены Брава, Альгерда Бахарэвіча, Юрыя Станкевіча, Вінцэся Мудрова, Анатоля Казлова, побач з якімі можна згадаць нямала маладых аўтараў. У гэтых пісьменнікаў, вядома, ёсць і творы, дзе герой напрыканцы ўздымаецца над сваімі слабасцямі, разумее няслушнасць ранейшых учынкаў, расплюшчвае вочы на недарэчнае, асэнсоўвае праблемы і робіць важны крок да іх вырашэння. Але наваколны свет паўстае такім непрывабным, што перамога не надае аптымізму: альбо побач няма нікога, хто падтрымае героя ў памкненні да лепшага, альбо яго мінулае настолькі складанае, што падаецца немагчымым, каб далейшы лёс склаўся ўдала.

«Безнадзейныя» тэндэнцыі ўвогуле актуальныя для сучаснай культуры. Так, на імпрэзах, якія адбываліся амаль адначасова, ад двух вядомых беларускіх аўтараў давялося пачуць знакамітую цытату з Мішэля Уэльбека: пісьменніку варта «знаходзіць болевыя кропкі грамадства і ціснуць на іх». Гэтая ўстаноўка спачатку не выклікае адмаўлення, бо добра стасуецца з мастацкімі прынцыпамі добрага старога крытычнага рэалізму. «Эстэтычны ідэал у крытычным рэалізме зацвярджаецца праз адмаўленне. Гэта суд над грамадствам. Мэтай мастацтва робіцца ўзнаўленне рэчаіснасці і вынесенне ёй прысуду» (Юрый Бораў). Але пэўная рызыка ў следаванні гэтаму прынцыпу таксама ёсць. Зноў і зноў герой сутыкаецца са складанымі абставінамі альбо пераконваецца (адначасна з чытачом) ва ўсеагульнай несправядлівасці і недасканаласці свету. Няма спадзяванняў на лепшае, пад цяжарам жыццёвых нягодаў дух героя слабее, а чытач... Што застаецца чытачу?



Малюнак Алесі Ісы.

Недасканаласць свету даўно не навіна для сусветнай літаратуры. Таму, калі ў пісьменніка атрымалася адметным чынам выявіць рэчаіснасць ці абазначыць сацыяльныя праблемы (а творца можа зрабіць гэта больш трапна і ёміста, чым журналіст альбо сацыёлаг, бо не мае патрэбы ў доўгіх лагічных абгрунтаваннях), твор будзе адзначаны і вылучаны чытачом. Заўважым, чытачом падрыхтаваным, для якога стыль, мастацкая канцэпцыя ці аўтарскія развагі важныя не менш за сюжэт. У адваротным выпадку чытач паскардзіцца на дэпрэсію і папракне аўтара ў нездаровым жаданні падзяліцца негатывам, што неаднойчы здаралася на ўсемагчымых носьбітах і рэсурсах.

Напрыклад, разважаючы пра кнігі, якія можна параіць знаёмым, літаратурны крытык Ганна Янкута да «вечных» крытэрыяў («цікавы сюжэт», «чытаецца не нудна», «добры стыль») дадае і неабходнасць пазбягаць твораў «пра сумную навакольную рэчаіснасць». «У цэлым разлік такі: не напалохаць людзей песнямі-жальбамі і незаўважна «падсадзіць» іх на якасны беларускамоўны прадукт».

*Недасканаласць свету даўно не навіна для сусветнай літаратуры. Таму, калі ў пісьменніка атрымалася адметным чынам выявіць рэчаіснасць ці абазначыць сацыяльныя праблемы (а творца можа зрабіць гэта больш трапна і ёміста, чым журналіст альбо сацыёлаг, бо не мае патрэбы ў доўгіх лагічных абгрунтаваннях), твор будзе адзначаны і вылучаны чытачом. Заўважым, чытачом падрыхтаваным, для якога стыль, мастацкая канцэпцыя ці аўтарскія развагі важныя не менш за сюжэт.*

Вядома, творы з сумным сюжэтам могуць быць карысныя як прафілактычны сродак, бо перасцерагаюць ад памылак, нават неабачлівых. Напрыклад, апавяданне Сяргея Шаматульскага «Яна» нагадвае, як непрыгожа выяўляць грэблівасць да тых, хто знаходзіцца на прыступку ніжэй па сацыяльнай лесвіцы, і як патрэбныя «маленькаму чалавеку» мінімальныя зычлівасць і прызнасць. Галоўная гераіня — прыбіральшчыца ў сельскім магазіне: «Муж яе піў, і сын піў, і не працаваў ніхто. Адна яна неяк цягнула ўсіх. <...> Як бы там ні было, жыццё склалася — ні надзей табе, ні чаканняў». Нават на пахаванні сястры ў далёкім вялікім горадзе жанчыну амаль не заўважаюць і звяртаюцца да яе толькі тады, калі трэба мыць посуд пасля памінак...

У апавяданні «Юра» таксама абмалёўваецца невясёлае жыццё: дзяцінства хворага хлопчыка — гэта чаканне гасцей, шпацыры з мамай у цырульню, а праз дзесяцігоддзе — сумны сняданак: нікому не патрэбны інвалід, тлустая, бледная, неахайная маці. «Капеечныя цацкі, падарункі, прыемныя нечаканасці — дзе нашы госці, мама?».

Мастацкі твор можа быць добрай магчымасцю нагадаць знаёмаму пра неабходнасць большай увагі да блізкіх людзей, але «Юра» — тэкст надта безнадзейны, і з гэтай мэтай выбар будзе зроблены хутчэй на карысць... Напрыклад, аповесці Алены Паповай «Тры дамы ў пошуках любві і смерці». Алена Папова не проста паказвае, як няправільныя ўстаноўкі прывялі гераінь да фіяска ў дачыненнях з блізкімі людзьмі: тры дамы пераасэнсоўваюць мінулае, што дазваляе ім знайсці суладдзе, палепшыць адносіны з іншымі. Крыху надзеі для чытача дакладна не зашкодзіць, а вось прамоўцыя твораў з «расчаравальным» сюжэтам — справа складаная, хаця ў залатой калекцыі сусветнай літаратуры яны займаюць прыстойнае месца.

На шчасце, у наш час кожны аўтар можа свабодна вызначаць сваю творчую канцэпцыю. Але хацелася б, каб беларускія пісьменнікі часцей ішлі насустрач аўдыторыі, а значыць, пазбягалі глыбокага песімізму. Гэта зусім не прапанова друкаваць адным мезенцам просценькую гісторыю з хэпі-эндам — магчымых варыянтаў нашмат больш. Цікавы прыклад у гэтым сэнсе — творы сучаснай кітайскай прозы, дзе герой змяняе стаўленне да асоб ці акалічнасцей, якія выклікалі адмоўныя эмоцыі, што адбываецца паступова на працягу расповеду. Сацыяльны ці псіхалагічны досвед героя будзе карысным для чытача, хоць казаць пра досвед літаратурнага персанажа можна вельмі ўмоўна. З гэтай прычыны на еўрапейскім кніжным рынку павялічваецца цікавасць да літаратуры нон-фікшн: мы з большым даверам арыентуемся на досвед рэальных асоб, хай сабе канкрэтныя факты іх біяграфіі ў значнай ступені дадуманыя аўтарам.

Наогул, паводле сюжэта самая сумная кніга чалавецтва — «Біблія», што дакладна ведае кожны, хто чытаў «Апакаліпсіс». Але «Біблія» — расповед не толькі пра шлях чалавецтва да катастрофы і не пра тое, што зло непазбежна пераможа дабро і нават здаровы сэнс. Сумны фінал не абвяргае неабходнасці клапаціцца пра несмяротную душу чалавека ў кожны канкрэтны момант яго жыцця, а значыць, падтрымліваць і падказваць магчымае вырашэнне праблем. Насамрэч, у літаратуры ёсць безліч варыянтаў ухіліцца ад расчаравальнага сюжэта, і было б выдатна, каб нашы аўтары мелі гэта на ўвазе...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Вянок» Багдановіча загучаў па-сербску

**У беларускай культуры адбылася значная падзея: «Вянок» Максіма Багдановіча пераклалі на сербскую мову. Зрабіла пераклад да 100-годдзя нашага класіка Даяна Лазарэвіч, былая студэнтка Бялградскага ўніверсітэта. Дзяўчына скончыла аддзяленне бібліяграфічнай справы і інфарматыкі філалагічнага факультэта. Ды нават і не ўяўляла, што будзе ў захапленні ад беларускай мовы і літаратуры.**




— Цікавасць да Беларусі і да беларускай мовы ўзнікла выпадкова. Падчас вучобы на факультэце вучыла англійскую, нямецкую і рускую мовы. Але трэба было выбраць яшчэ адну замежную. Хацелася вывучаць штосьці новае, цікавае, экзатычнае. Гэтак і прыйшла да беларускай. З беларускай літаратуры вельмі падабаецца Уладзімір Караткевіч: яго паэзія такая ж эмацыйная, як і я. З Караткевіча, дарэчы, і пачалося маё перакладанне. Пасля перакладала на сербскую Міколу Мятліцкага, Петруся Броўку, Алеся Бачылу. Гэтыя тэксты друкаваліся ў студэнцкім часопісе. Да перакладу Максіма Багдановіча мяне падштурхнуў і натхніў Іван Аляксеевіч Чарота, доктар філалагічных навук, акадэмік Сербскай акадэміі навук, — распавяла Даяна.

Наклад сербскага зборніка «Венац» невялікі — усяго 300 асобнікаў на дзве краіны. Кніга разыдзецца па бібліятэках. Даяна Лазарэвіч ужо прэзентавала свой пераклад у Мінску, у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Напярэдадні падзеі дзяўчына завітала на круглы стол у рэдакцыю газеты «Звязда» разам з прафесарам Іванам Чаротам.

— Я нават і марыць не магла, што «Венац» выдадуць. Таму зараз вельмі-вельмі шчаслівая. За гэта трэба сказаць дзякуй Уладзіміру Чушаву, былому паслу Рэспублікі Беларусь у Сербіі. Пераклад, вядома — праца не з лёгкіх. На зборнік Максіма Багдановіча давялося патраціць цэлы год. Тройчы прачытала «Вянок», трэба было падумаць над рыфмай і рытмікай, бо сербская рытміка зусім іншая. Ёсць свае цяжкасці перакладу, — распавяла Даяна.

Дзяўчына не толькі перастварае, але і піша вершы на сербскай, рускай, англійскай ды беларускай мовах. Выдала тры паэтычныя зборнікі «Скрозь прастору і час», «Сцежкі ў зорным бязмежжы» і «Чужынец», раман «Замглёны шлях талентаў» ды жыццяпісную кнігу «Айцец Арсеній: успаміны пра духоўнага айца». На старонках нашай газеты ўжо друкаваліся вершы Даяны на беларускай мове. Даяна скончыла магістратуру, напісаўшы першую на прасторах былой Югаславіі дысертацыю па беларусістыцы «Бібліяграфія перакладаў з сербскай мовы на беларускую і з беларускай — на сербскую». У планах Даяны — паглыбляць веды ў вывучэнні беларускай мовы.

— Мне вельмі падабаецца ў Беларусі. Была ў Полацку — не хацелася адтуль з'язджаць. У Мінску хораша гуляць каля Свіслачы. Што да планаў на будучыню, то, магчыма, вазьмуся за працу над стварэннем беларуска-сербскага слоўніка. Хоць цяпер гэта падаецца такім жа сном, як калісьці здавалася нерэальным і выданне «Вянка» Максіма Багдановіча. Дакладна ведаю, што працаваць давядзецца шмат і праца будзе звязана з сербска-беларускімі адносінамі, — падзялілася Даяна.

Талент маладой літаратуразнаўцы заўважыў Сяргей Панізнік і прысвяціў дзяўчыне з Сербіі верш, які прачыталі на прэзентацыі зборніка «Венац» у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

*<…> Адзінству ўсіх славян —*
*магістарскі ўток.*
*Быў Караткевіч, Танк,*
*За Броўкам і Бачыла...*
*Даяна ў наш абрус*
*Прыўнесла свой віток...*
*Угледзеўся Максім:*
*Даяна прад вачыма! <…>*

Сціплая Даяна заўсміхалася, пачуўшы гэтыя радкі. Узрадавалася неспадзяванцы. Цяпер яна ў Беларусі жаданы госць. Таму невыпадковы ўдзел маладой перакладчыцы ў III Міжнароднай школе беларусістыкі. Для Даяны гэта добрая магчымасць палепшыць узровень валодання беларускай мовай ды пакамунікаваць на ёй.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК,**
**фота аўтара.**

# «ПАСЛЯ РАСПАЛЕНАЙ ТУРКМЕНСКАЙ СПЁКІ...»

Сёння нам здаецца, што Туркменістан — нешта далёкае і невядомае. Хоць і хуткасці лайнераў іншая, і інтэрнэт дазваляе зазіраць у іншую краіну не выходзячы з дому. А між тым быў час, калі повязі сілкавалі, дадавалі моцы, вылучалі сяброўства на першы план… Гісторыя літаратурных стасункаў — тонкая матэрыя. За кожнай праявай, кожным фактам літаратурнага пабрацімства — персанальная біяграфія, унутраны покліч, часам лёсавызначальныя сустрэчы…

Так і ў выпадку гэтай сустрэчы, гэтага знаёмства. Вось гартаю зборнік беларускага паэта Паўла Марціновіча (нарадзіўся ў Мінску ў 1954 годзе) «Час бурштыну» (Мінск, 1977 год). Кнігу я набыў яшчэ ў 1980 годзе, школьнікам. І, магчыма, толькі з часам прачытаў гэты верш — «*** На вуліцах пустэльных Ашхабада…»:

*На вуліцах пустэльных Ашхабада,*
*Дзе я блукаў калісьці дзень пры дні,*
*Здалося неяк, што я быў бы рады*
*Жыццё пражыць у гэтай цішыні.*

*Вось так блукаць спакойна і самотна*
*Па вуліцах пустэльных дзень пры дні,*
*Вось так блукаць бязмэтна,*
*бесклапотна*
*У выпаленай сонцам цішыні.*

*Што сталася — я адказаць не ў стане,*
*Яшчэ адзін прайшоў я толькі крок —*
*І гэтае нікчэмнае жаданне*
*Рассыпалася ўмомант, як пясок.*

Здаецца, што ўсё апісанае паэтам — рэльефны адбітак перажытага і мною, таго, што сам трымаю ў памяці. Відавочна, што верш напісаны пасля паездкі ў сталіцу колішняй Туркменскай ССР. І паездка тая далёка не выпадковая. Некалі ў ваколіцах Ашхабада (здаецца, у Нębіт-Дагу) служыў салдатам (некаторы час, пасля шпіталя, у запаснай вайсковай часці) бацька Паўла — Аркадзь Марціновіч. Беларускі пісьменнік Аркадзь Марціновіч расказаў пра гэты час у рамане «Не шукай слядоў сваіх»… Ужо ў другой палове 1980-х гг. я напісаў Аркадзю Марціновічу з роспытамі пра яго «туркменскую біяграфію»… Пісьменнік даслаў мне ў Ашхабад кнігу з аўтографам. Пасля я перадаў раман (у першай палове 1990-х гг.) у бібліятэку Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны. Дзе той зараз цэнтр?!. Дзе тая бібліятэка?!.

Так што і ў бацькі, і ў сына — свой Туркменістан, свае туркменскія ўспаміны. У Паўла Марціновіча, які болей засведчыў сябе як дзіцячы пісьменнік (выдаў чатыры зборнікі вершаў для маленькіх чытачоў — «Паспяшайся ў наш звярынец!», «Жыў-быў воўк», «Дзядзька Сон», «Сталёвы бусел»), ёсць яшчэ адзін «ашхабадскі» верш — «Дыван». Яму папярэднічае эпіграф: «У музеі на Ашхабадскай дывановай фабрыцы я ўбачыў дыван незвычайнай прыгажосці. Ён сатканы старым майстрам, які загінуў у час землятрусу 1948 г.».

*Дываны, дываны…*
*Дываноў найдзівоснае ззянне.*
*Колькі тут пешчатлівай душы,*
*Колькі тут хвалявання.*
*Кожнай ніткай сваёю*
*Яны прамаўляюць і сведчаць,*
*Як схіляліся рупныя плечы*
*І ўранні, і ўвечар.*

*...Толькі гэты дыван*
*Аглядаю ў задуме і скрусе.*
*Нават зыркая гладзь*
*Мне нагадвае аб землятрусе,*
*Аб зямлі, што была,*
*Як дыван, маляўнічай і пекнай.*

*А пасля скаланулася*
*І загрымела, як пекла.*

*Дзе ты, майстра? Цябе*
*Пахавалі каменныя груды.*
*А дыван ацалеў,*
*Ацалеў нейкім д'ябальскім цудам. <…>*

…Дарэчы, крыху болей як за год да землятрусу ў Ашхабад прыехаў пасля вызвалення з ГУЛАГа беларускі пісьменнік Барыс Мікуліч. Тут жыла яго сястра — Кацярына. Яна працавала ў тэатры оперы і балета. Тут Барыс Мікуліч пісаў «Аповесць для сябе», іншыя творы. Пражыўшы колькі месяцаў у Ашхабадзе, пераехаў у Беларусь. А сястра — Кацярына Мікуліч — загінула ў землятрусе. Як загінуў і туркменскі моваязнаўца, публіцыст, беларус па паходжанні Аляксандр Пацалуеўскі. Відаць, гэтыя факты Паўлу Марціновічу былі невядомыя. А я ўсё ж чытаю пранізлівы, шчымлівы верш «Дываны» ў звязку з гэтым вось веданнем пра беларусаў, якія загінулі ў ашхабадскім землятрусе... Разам з імі загінула і шмат што няспраўджанае, няздзейсненае…

«Начнога Каспія спакой і прахалода... / Плыві, плывец, святкуй жаданы час. / Быў цяжкі дзень. Гаючаю лагодай / Туманны Каспій атуляе нас. / Забудзь пра шлях, пакутлівы, далёкі, / Забудзь нудзьгу сваіх непамыслот. / Пасля распаленай туркменскай спёкі / Адчуй спрадвечную магнасць вод!..» — а ўжо гэтыя радкі падводзяць да высновы, што Ашхабадам падарожжа Паўла Марціновіча ў Туркменістан не абмежавалася… Каспій жа — за сотні кіламетраў ад сталіцы Туркменістана.

Згадка пра кнігу паэзіі П. Марціновіча «Час бурштыну» — і падказка да наступнага клопату. Чаму б не скласці анталогію дружбы з вершаў беларускіх паэтаў пра Туркменістан? І дадаць бы яшчэ ў зборнік дружбы, сяброўства і вершы, паэмы туркменскіх аўтараў пра Беларусь… З беларускага боку ў кнігу ўвайшлі б творы Генадзя Пашкова, Алега Лойкі, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Міхася Карпенкі, Браніслава Спрынчана, Любові Філімонавай, Віктара Шымука, Янкі Сіпакова… А з туркменскага — Каюма Тангрыкуліева, Пірнепеса Авезліева, Анаберды Агабаева (усе трое напісалі пра Хатынь)… Трэба было б зазірнуць яшчэ і ў спадчыну Какабая Курбанмурадава — ён гасцяваў, працаваў у Доме творчасці «Іслач». Ды і шмат яшчэ для каго з туркменскіх пісьменнікаў Беларусь была добра знаёмай. У Беларусі, у час Вялікай Айчыннай вайны, паэму «Канстанцін Заслонаў» напісаў туркменскі літаратар Анакулі Мамедкуліеў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Аляксандр БЫКАЎ



***

Ад родных купін
нікуды не дзецца,
На момант з'едзем
ці на ўсё жыццё…
І зберагаючы
ад тлуму сэрца,
Над хатай вечар
крылы распасцёр.

Якія ні рабі ў жыцці
высновы,
Ды шчасце ў тым
(ты разумееш зноў):
Сустрэць каб сонца
узыход барвовы
І весткі дачакацца
ад сыноў.

## Бацькоўскі пагорак

Туды, дзе бацькоўскі пагорак
Як спраўджаны сон паўстае,
Вяртаем з далёкіх вандровак
Стамлёныя сэрцы свае.

Паволі адгрукаюць колы,
І гром адляскоча турбін.
І нашы з табою анёлы
З палёгкай зірнуць з аблачын…

## Праз дзяды

Ўжо колькі часу няма Саюза,
Як і сіропу за тры капейкі…
Мы на Міжмор'і лагодзім пузы,
І да Парыжа пластуюць рэйкі.

А я ці памятаю? Ці шкадую?
Калі без лозунгаў і пагрому —
Згадаю раптам сцяжыну тую,
Дзе басаном я ляцеў дадому.

Душа дзіцячая аж трымцела,
Бо праз дзядоўнік вялі дарогі.
Вучыла маці: «Бяжы ты смела —
І не параніш дзядамі ногі».

Дзе тая лёгкасць і тая вера?
Што час і людзі зрабілі з намі!
Я адчыняю ў ранак дзверы:
Да маці сцежка вядзе з дзядамі…

***

І вось яно, новае лета,
І новы, няспраўджаны, лёс.
І сонца глядзіцца з нябёс
Падкінутаю манетай…

## Бяжыць жыццё…

Бяжыць жыццё…
Як не хапае свят!
У час былы
адчайна зазіраем,
Дзе мы ў кіно
кагосьці запрашаем
На самы лепшы —
на апошні рад!

## Сны

А добры сон — як добры чалавек.
Ён з'явіцца і сыдзе незаўважна…
І ты душу зноў пакладзеш на здзек
У новы дзень — і хмурны, і праважны.

І прыкра так, аж хочацца завыць.
Так крыўдна. І ад роспачы нямею…
А воблакам заўжды ў нябёсах плыць,
І сны люляць, і мары, і надзеі!

## Фэйсбучны верш

На старонцы фэйсбучнай я зноў —
Віртуальныя зносіны ў модзе.
І ўсё шырыцца кола сяброў,
І ў мяне ўжо да сотні даходзіць.

Толькі думка прыйшла незнарок
Пасярод віртуальнай хімеры:
Каб адзін хоць націснуў званок,
Каб адзін хоць пагрукаў у дзверы!

## Экспромт

Паэтам радасцей не трэба,
Бо залянуюцца яны.
Акраец хлеба, лусту неба,
І толькі поўны кош віны…

**Браты Анатоль і Васіль Дэбішы, беларускія паэты, нарадзіліся ў адзін дзень — 22 ліпеня 1962 года — у вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Абодва скончылі Мінскі інстытут культуры. Жывуць і працуюць у Брэсце. Выдалі па некалькі паэтычных зборнікаў. Друкаваліся ў «ЛіМе». Прапануем чытачам новыя вершы братоў-юбіляраў.**
**Анатолю і Васілю Дэбішам — 55!**

Анатоль ДЭБІШ



## Тут

Тут дух жыве — і мой, і продкаў,
Што ад бяды і смутку лечыць.
Згарнуўшыся ля печы коткай,
Спіць час на кажусе авечым.

Выява кожная і рыска
З нябыту паўстае нанова.
Даўно сатлелая калыска
Маім тут прамаўляе словам.

Тут плача радасць — ці не чулі?
Малітву смутак шэпча Богу.
І крокі бацькі і матулі
Вартуюць згнілую падлогу.

Не вецер тут над дахам свішча,
І не шалее завіруха —
Тут, між разрух і папялішча,
Каханне ў вокны б'ецца глуха.

Тут — ці сляпы ты, ці відушчы —
Пабачыць можаш нават цішу.
Тут — вучацца, і слову вучаць,
Каты здзічэлыя і мышы.

Тут — часу мала, а ці многа
Прайшло — жыццё не заціхае.
Адсюль вядзе мяне дарога,
Сюды прыйду я — пэўна знаю.

Прыйду да гэтых вербаў ніцых,
Да гэтых нівaў, гэтых водаў:
Каб родным словам наталіцца,
Каб тут застацца назаўсёды.

## Распарасонілася неба

Распарасонілася неба
Суквеццем красак і травы.
Пасля дажджу паруе глеба
І лёг туман на паплавы.

Як свечкі — промні дагараюць,
За лесам чэзне грому звон.
І вечар дрэвы спавівае
У сон начны, салодкі сон.

Ды спаць ісці — няма патрэбы,
Ў таемнасць ночы крочу я.
Распарасонілася неба,
Зямля, Сусвет, душа мая.

***

Дзень паціху сышоў за пагорак,
Хутка ноч кужаль зммроку саўе.
Старажытнымі рунамі зорак
Неба піша паданні свае.

Час у споведзі руны павяжа,
І гучыць громам з неба іх зык.
Нібы князь, на нябесную стражу
Выйшаў з прыстані хмар маладзік.

## Студня

Схаваўся дзень у шатах ліп.
Стамлёны, з лісця ложак ладзіць.
Спіць вёска. Толькі студні ўсхліп,
Як рэха, носіцца па садзе.

Імчыць над садам, над травой,
Ляціць ад яблыні да грушы,
Бы сон салодкі і спакой
Хтосьці неўзнарок яе парушыў.

Не спіцца ёй, як і вядру.
І ў родным доме не спіцца.
Ах, студня матчына, даруй,
Што ўкраў студзёнае вадзіцы.

## Дзень выспеў

Дзень выспеў, моцы больш не мае
Свой доўжыць рух, свой доўжыць бег.
І сажай цемра ападае
На дол нямы, на стромы стрэх.

Кладзецца ціша нам на плечы,
На косы русыя твае.
Але пад покрывам цямрэчы
Жыццё бруіцца і пяе.

Так многа часу да світання.
Яшчэ я дужы, малады.
Дзень выспеў. Выспела каханне.
Ідзём, збіраць яго плады!

## Падглядзеў

Змяняе вечар апранахі
З ружовага на чорны колер,
Павіснуў маладзік над дахам,
Цікуе праз бярозы голле,
Як пані ўпотайкі ад мужа,
Каханку сеўшы на калені, —
Цалуе квецень белай ружы…
І прэч знікае праз імгненне,
Ноч адарыўшы гучным смехам.
Па-за дзвярыма роднай хаты.

Яму — і радасць, і пацеха,
І нібы ў чымсьці вінаваты.

Васіль ДЭБІШ



## Золак

Абудзіўся, чапурыцца ранак.
Прытуліў да шыбы голле бэз.
Цёхкаюць салоўкі апантана,
Іх харал сягае да нябес.

Сонейка ўсміхаецца зычліва.
Гойсаюць па залацістым шкле
Прамяні гарэзліва, імкліва.
Прыварак духмяны на стале.

На абрусе горкаю прысмакі:
Вафлі з абаранкамі ды ўрук.
Шчасна завіхляў хвастом сабака.
Скігатнуў у хляўчуку япрук.

Між высокіх траў прачнуўся мятлік.
Узляцеў на кветку як на трон.
Золак. Маці цэдзіць далікатна
Сонейка праз сіта дня ў вядро.

***

Дождж ідзе ды ідзе — наганяе тугу.
Нечы прывідны цень прытуліўся
да брамы.
Я гляджу на той дождж, на яго мітульгу
І дзяцінства сваё ўспамінаю, і маму.

Помню вечар маркотны і ветру парыў,
Ну а мама не йшла ўсё. І я, небарача,
Да аконца заплаканы твар свой туліў,
Прагна шыбіну гладзіў далонькай
дзіцячай.

Адышла ў іншасвет мая мама даўно,
Аддала мне цяпло і любоў даастачы.
Як тады, узіраюся пільна ў акно,
Каб за поцемкам часу —
мінулае ўбачыць.

## Ноч

Ноч апранулася ў вохкую ціш,
Сцеле дыван саматканы.
Раптам, спалохана, піскнула мыш
Недзе з палеткаў аўсяных.

Хрушч неўтаймоўны над бэзам гудзе.
Неба — бяздонная квецень.
Плешчацца месяц у чыстай вадзе,
Злоўлены рыбай у сеці.

Вунь нехта думны па травах ідзе
Ў белым — бязважкі і босы.
Бусел з бусліхай на дубе ў гняздзе
Дзюбкамі ладзяць нябёсы.

За кіламетры — чутна далячынь.
Думкі — напятыя струны.
Зоркаю стыне на любым плячы
Палкі, як звон, пацалунак.

## Госць

Пастукае мне ў акно
сярод ночы
чалавек,
поўны роспачы,
назавецца імем маім…
Я адчыню дзверы
і скамянею:
гэты чалавек
так падобны да мяне,
нібыта адзін твар —
Я і Ён.
— Не, — скажу, —
я не магу цябе
пусціць:
Я ўжо ёсць…
Чалавек
растворыцца
ў цемені ночы.
А я і не заўважу,
што іду за ім,
што за сабой
мяне вядзе
прабітая цвіком
Рука.

## Душа

За поўнач. А душа не спіць.
Вядзе з нябёсамі гамонку.
Імгненне — і яна ляціць,
Парвала цела абалонку.

Крычу: «Вярніся!» Не ўтрымаць.
Яе палоніць свет дзівосны.
Яна мяне не хоча знаць.
Ёй краты цела невыносны.

Яшчэ ёй невядомы страх, —
Страх вышыні і адзіноты.
Усё магутней крылля ўзмах
І ўсё мацней жаданне лёту.

## Яблыня ў небе

У небе я пасадзіў яблыню,
на якую раніцай, да ўзыходу сонца,
прылятае галубка

і пачынае шчасна буркаваць
песню кахання,
абуджаючы думкі пра цябе.

Кожную ноч
на маёй яблыні
выспяваюць зоркі.



Таіса СУПРАНОВІЧ

# ВІХОР ЛЁСУ

*Апавяданне*

Было гэта гадоў 25 таму. Ліпень, спякота. У мяне адпачынак. З раніцы муж адвозіў нас — сына і двух маіх пляменнікаў з Піцера — на возера.

Возера, вядома, цудоўнае. Дно, жоўты пясочак… Пасля купання ў гэтай незвычайнай вадзе — быццам нанава нарадзіўся. Але для мяне гэты адпачынак стаў проста мукай... Хлопцы, усе трое, не паспеўшы абсохнуць, зноў імчалі ў ваду. Заплывалі чым далей на глыбіню, я ж, каб не патанулі, — за імі. Не зважаючы на мой аўтарытэт, хлопцы паднырвалі пад мяне і даволі адчувальна тапілі. І рагаталі па малалетняй дураслівасці з тых эпітэтаў, якімі я абсыпа́ла іх, выныраючы і адкашліваючыся.

У той дзень мяне не пакідала адчуванне трывогі: баялася за сваіх хлопцаў і наогул за ўсіх на пляжы, як бы прадчуваючы бяду. Час ад часу ўглядалася ў азёрную гладзь: людзі плавалі, смяяліся, весяліліся. У гэтым знакамітым возеры, не раз апісаным паэтамі і празаікамі, рэдка хто тапіўся. Вада надзейна трымала чалавека на паверхні.

Побач з намі на клятчастым пледзіку загаралі дзве дзяўчыны, якія, разамлелыя ад сонца, калі-нікалі млява перагаворваліся. Ды так атрымалася, што нашымі суседкамі па пляжы яны былі дні тры-чатыры, і я стала нявольнай сведкай іх размоў. Дзяўчаты, выпешчаныя, дагледжаныя, стараліся атрымаць прыгожы загар, а не насіліся па ўсім пляжы, у адрозненне ад маіх хлопцаў.

...Трывога не сунімалася. Я думала пра адну добрую, прыстойную і разумную дзяўчыну. Яна была настаўніцай беларускай літаратуры ў школе-інтэрнаце для сірот, ну і я там падпрацоўвала па сумяшчальніцтве, каб мець якую капейку. У вольны час або ідучы разам дадому мы многа размаўлялі. Яна жыла ў прыгарадзе з маці-настаўніцай. Цікавая у іх была сямейная гісторыя...

Таня вылучалася прывабнай спакойнай славянскай прыгажосцю, але ніколькі не была падобная да маці. Ды неяк яна мне расказала, што адзін у адзін падобная да свайго бацькі, які доўгі час жыў у Пскове. Таніну маму пасля інстытута накіравалі ў гэтую прыгарадную вёску, дзе яны жывуць і цяпер. А новая дзяўчына, ды да таго ж яшчэ «вучыцелька», у вёсцы — гэта ого-го якая ўвага! І больш за ўсіх увагу на яе звяртаў першы кавалер-прыгажун вёскі. Такія статныя людзі — рэдкасць. Яму толькі-толькі споўнілася васямнаццаць, восенню трэба было выпраўляцца ў войска. А настаўніца ад кахання проста страціла галаву і чакала свайго Гену цэлыя два гады! Ён жа, маладзейшы за яе гадоў на пяць, бяздумна скакаў па жыцці як верабей. Пасля войска жаніцца яшчэ і не думаў.

Але ягоная маці, разумная, рашучая і баявая жанчына, якая за два гады так прывыкла, што гэтая прыстойная і працавітая «вучыцелька» будзе і ўжо фактычна ёсць яе нявесткаю, сыну і слова не дала супраць вымавіць. Пасля дэмбелю ён і пікнуць не паспеў — праз два тыдні сямейным чалавекам стаў. Адразу ўладкаваўся экспедытарам на металаробчы камбінат і стаў раз’язджаць па камандзіроўках — па ўсім Саюзе. Праз паўтара года нарадзілася Таня — копія бацькі, кучаравы анёлак. Але Гена дачкой асабліва не займаўся. Прыедзе на пару дзён — і зноў знікае. Грошай у сям’ю таксама амаль не прыносіў. Кацярына Іванаўна, якая адразу пасля родаў выйшла на працу, цягнула сямейны воз як магла. Спачатку была завучам школы, пасля — дырэктарам. Добра, што Генава маці дапамагала гадаваць унучку.

Неяк, калі Тані было гадкі чатыры, Кацярыне Іванаўне падказалі, што ў гасцініцы горада пасялілася асоба са Смаленска, да якой заходзіць Гена. І якраз у чацвер ён стаў збірацца нібы ў камандзіроўку. Спакаваў паляндвіцу, каўбас, выбраў лепшы кавалак сала. Было позна, амаль ноч. Кацярына Іванаўна пасля ўрокаў рушыла ў горад. (Машыну дапамаглі купіць яе бацькі і свякроў. З такім мужам даводзілася і па доме ўсё рабіць, і машыну вадзіць.)

Дзверы гасцінічнага нумара адчыніліся адразу. На парозе стаяла дзяўчо, мнула цыгарэтку аб ярка нафарбаваныя вусны. Кораценька падстрыжаная, выбеленая. «Ой, я думала, Гена…» —прамовіла яна.

А вось і ён. Не бачачы жонку, з парога азваўся: «Я тут тебе винца лёгонького купил, а себе — водочки. "Короны" жёлтой не было, купил голубую…»

На парог Кацярына Іванаўна свайго мужа больш не пусціла, не прыжыўся ён і ў Смаленску. Потым, праз час, пайшоў у прымы да мясцовай афіцыянткі з рэстарана, але жывуць кепска. Які быў змаладу валацуга, такім і застаўся...

Таня знешне была выліты бацька — што тварам, што постаццю. Красуня. Ды розум, тактоўнасць, нейкая шляхетнасць, якую цяпер мала ў каго знойдзеш, — безумоўна, ад маці. Я думала: «Як ёй, такой разумнай дзяўчыне, было так уляпацца: практычна не ведаючы мужчын, зацяжарыць з першай блізкасці...» Прызнаючыся мне, яна плакала і была ў такім адчаі, што я разгубілася: як ёй дапамагчы, што параіць. Ды яшчэ мама яе такая ідэйна-строгая, божа мой божа... Я пыталася пра бацьку дзіцяці, але Таня казала, што розум згубіла ад кахання да яго, а ён кахае іншую...

Дні па-ранейшаму стаялі спякотныя. Штодзень трэба было пільнаваць трох хлопцаў, на якіх скура гарэла, і, гледзячы на іх хітрыя твары, кожную хвіліну можна было чакаць чаго заўгодна. А з галавы не ішла Таня.

...А між тым дзяўчаты, суседкі па пляжы, павольна-ляніва перагаворваліся, не звяртаючы на мяне ніякай увагі. Хутка я зразумела, што яны сёстры і абмяркоўваюць сітуацыю. Адна з іх скончыла медінстытут і кожны дзень чакае прыезду свайго каханца, які вось-вось павінен прапанаваць ёй выйсці замуж. У яго вельмі ўплывовыя, багатыя бацькі, а сам ён, аднакурснік дзяўчыны, адпачывае цяпер у Італіі. Яны ўжо два гады разам, прапановы ж пакуль што не рабіў. Але нават калі ён не ажэніцца, гэта будзе не такая ўжо вялікая бяда. Аказваецца, у яе ёсць яшчэ «запасны варыянт», Сярожа, які «плавіцца, як марожанае на спякоце», калі хаця б возьме яе за руку. У іх не было блізкасці, але ажаніцца толькі ў апошні месяц прапаноўваў разы з тры. Маму яго я добра ведала. Хлопец — таксама не самы горшы варыянт у матэрыяльным плане...

Слухаючы, разважала: вось бегае па пляжы мой сын — змалку сумленны, справядлівы, трохі па-дзіцячы дураслівы хлопчык. Толькі хто ведае: можа, гадоў праз дзесяць нейкая сцярвоза будзе гэтак жа «абуваць» яго, як вось гэтая — Сярожу. Але што зробіш — жыццё...

Ездзілі на возера чатыры дні запар, а ў пятніцу з ночы ўзняўся такі вятрыска — проста збіваў з ног, але было цёпла. Хлопцы захацелі зноў паехаць да такой ласкавай для іх вады. Я змучылася і гэтымі чатырма днямі, не хацелася, але абавязкова трэба было ехаць: пляменнікі з паўночнага горада, мала бачаць сонца і такога цудоўнага возера…

На пляжы народу было мала: вецер, возера хвалявалася. Дзяўчаты ж, суседкі, ужо ляжалі на сваім месцы. Мае хлопцы адразу кінуліся ў ваду. Кінулася, як на амбразуру, сцерагчы іх і я. Вецер неяк умомант стаў халодным, амаль сцюдзёным, ды падзьмуў яшчэ мацней, чым раніцай. Хлопцаў жа з вады было не выгнаць: усе трое пасінелі ад холаду, але ўсё ж працягвалі ныраць. Пасінела і я, але больш ад злосці на гэтых падшыванцаў.

Ды раптам на беразе пачалося незразумелае. У вадзе спачатку не паверылася, што гэта робіцца на маіх вачах. Векавыя дубы з трэскам, гулам пачалі ламацца як алоўкі, падаць, чапляючы галінамі адзін аднаго. З берага даносіўся немы крык, енк, стогны. Мае хлопцы стаялі ў вадзе знямелыя, і, абняўшы іх траіх, я проста здранцвела. Ды раптам вецер сціх, віхор пайшоў далей, лесам. Пачуліся сірэны «хуткіх», сігналы машын — з горада імчала дапамога, якая была ўжо мала каму патрэбная. Я пакінула хлопцаў у вадзе і пабегла да свайго месца — там быў мабільнік…

Якраз пасярод пледа, патрушчыўшы нашы рэчы, ляжаў ствол тоўстага дуба. Пад магутнай яго галінай, углядаючыся ў неба невідушчымі вачыма, выглядаў з-пад лісця твар той, якая толькі-толькі атрымала дыплом урача, але не паспела вылечыць ніводнага чалавека. Потым высветлілася, што векавыя дубы былі ўнутры струхнелыя і трымаліся на адной кары.

Я зрабіла ўсё, каб Сярожа ажаніўся з Таняй. Ён быў падначаленым майго мужа. Падключылася і яго мама, не апошні ў горадзе чалавек: сын заўсёды лічыўся з яе поглядамі. Адно толькі мне сказаў: дзеля дзіцяці жэніцца. А Таццяну не кахаў і не кахае. І ўсё жыццё будзе кахаць толькі Дзіну, якая загінула. «Паглядзім», — падумала я.

…Прыязджала неяк у свой горад, дзе мы пражылі многа гадоў. Раптам здалёк бачу: каля базару, на прыпынку, Сярожа садзіць на задняе месца машыны двух вяртлявых падшыванцаў і з вялікай пяшчотай дапамагае сесці ў машыну Тані, якая, бачна, ужо на апошнім месяцы — чакае трэцяе дзіця.

Павароты лёсу, аднак, крутыя.



Фота Кастуся Дробава.

# «ГРАМАТЫКА...»: АЎСТРЫЙСКІ ПОГЛЯД

Выданне манаграфіі, прысвечанай гісторыі беларускай мовы, у адным з вядучых еўрапейскіх універсітэтаў, — значная падзея для беларускай навукі. Прэзентацыя двухтомнага даследавання вядомага аўстрыйскага славіста, беларусіста Германа Бідэра «Антон Луцкевіч. Беларуская граматыка. Вільня, 1916», якая пабачыла свет у Ольдэнбургскім універсітэце імя Карла фон Асецкага (Германія), адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.




Напрыканцы 1991 года нямецкі мовазнаўца Карл Гутшміт у бібліятэцы Гамбургскага ўніверсітэта выпадкова адшукаў кнігу буйнога фармату ў 70 старонак. На тытульным лісце меўся наступны надпіс: «Антон Луцкевіч. Беларуская граматыка паводле лекцый, чытаных на беларускіх вучыцельскіх курсах. Вільня, 1915 — 1916 год. Частка 1. Фанетыка і этымалогія. Вільня, 1916 год». Знойдзенае выданне аказалася рукапісам

> *Гісторык Анатоль Сідарэвіч яшчэ на пачатку 1991 года ў нарысе, апублікаваным у «ЛіМе», пісаў пра дзейнасць Антона Луцкевіча і ўзгадаў, што ў Віленскай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Літвы знаходзіцца рукапісная праца Луцкевіча, прысвечаная фанетыцы і этымалогіі.*

на тагачаснай беларускай лацініцы, размножаным адным з прымітыўных спосабаў, якія існавалі на пачатку ХХ стагоддзя.

Карл Гутшміт паведаміў пра знаходку навуковай супольнасці і ўзяўся за даследаванне рукапісу. Але завяршыць распачатую справу вядомаму славісту не давялося: у 2012 годзе ён пакінуў гэты свет. Даследаванне падхапіў Герман Бідэр — вучань і калега Карла Гутшміта. Пад яго пяром 70 старонак «Граматыкі...»ператварыліся ў амаль тысячу старонак навуковага даследавання.

Першы том манаграфіі змяшчае тэкст рукапіса і каментарый да паасобных моўных з'яў. Аўтар падрабязна прааналізаваў лінгвістычны матэрыял: сістэму вакалізму, кансанантызму, марфалогію, словаўтваральныя асаблівасці беларускай мовы, а таксама яе лексічны склад, стылістыку, тэрміналагічны фонд. У другім томе пададзены каментарый да развіцця ранняй беларускай літаратурнай мовы, нарысы даўняй граматыкаграфіі і лексікаграфіі, мовазнаўчай тэрміналогіі, а таксама храналагічна ўпарадкаваныя каментарыі да моўнай палітыкі і моўнай сітуацыі на тэрыторыі Беларусі ў 1795 — 1939 гг.

Прафесар Інстытута славістыкі Венскага ўніверсітэта Герман Бідэр неаднойчы наведваў Беларусь, праходзіў стажыроўку ў Нацыянальнай акадэміі навук. Прывітальны ліст ад Германа Бідэра агучыў дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Ігар Капылоў. Аўстрыйскі даследчык падкрэсліў патрыятычную незалежніцкую пазіцыю палітычнага дзеяча Антона Луцкевіча, каго нават у нашы дні магла б браць за прыклад беларускамоўная эліта, якой і прысвечана праца Бідэра.

Доктар філалагічных навук, прафесар Генадзь Цыхун, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства НАН, звярнуў увагу на важныя моманты, якія вылучаў Карл Гутшміт у дачыненні да дзейнасці Антона Луцкевіча. Як адзначаў Гутшміт, істотна, што Луцкевіч не вырас на беларускім дыялектным матэрыяле і не прэтэндаваў на вызначальнае месца сваёй рэгіянальнай гаворкі ў літаратурнай мове, а таксама не меў філалагічнай адукацыі, што было вельмі карысна. Займаючыся справамі газет «Нашай долі» і «Нашай нівы», пішучы брашуры і кнігі, Антон Луцкевіч вымушаны быў практычна вырашаць пытанні іх мовы — ад графічнай сістэмы да сінтаксісу і стылю, — так можна дапусціць, што ў яго выпрацавалася сведамасць спецыфічных норм літаратурнай мовы. Цалкам верагодна, што Антон Луцкевіч планаваў выдаць сваю «Граматыку...», але з выданнем працы Браніслава Тарашкевіча палічыў гэта неактуальным.

Дарэчы, беларускія мовазнаўцы маглі і раней узяцца да даследаванне «Граматыкі...» Антона Луцкевіча калі б... больш уважліва чыталі «ЛіМ»! На гэта звярнуў увагу выкладчык кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, экс-старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Сяргей Запрудскі. З яго слоў, гісторык Анатоль Сідарэвіч яшчэ на пачатку 1991 года ў нарысе, апублікаваным у «ЛіМе», пісаў пра дзейнасць Антона Луцкевіча і ўзгадаў, што ў Віленскай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Літвы знаходзіцца рукапісная праца Луцкевіча, прысвечаная фанетыцы і этымалогіі.

Дзякуючы нямецкім калегам «Граматыка...» А. Луцкевіча атрымала сур'ёзную кваліфікацыю і экспертную ацэнку. Аднак манаграфія Германа Бідэра выдадзеная

> *Займаючыся справамі газет «Нашай долі» і «Нашай нівы», пішучы брашуры і кнігі, Антон Луцкевіч вымушаны быў практычна вырашаць пытанні іх мовы — ад графічнай сістэмы да сінтаксісу і стылю, — так можна дапусціць, што ў яго выпрацавалася сведамасць спецыфічных норм літаратурнай мовы.*

на нямецкай мове, што ўскладняе знаёмства з вынікамі даследавання для беларускай аўдыторыі. Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ Мікалай Прыгодзіч прапанаваў перакласці навуковую работу на беларускую мову, і гэтую прапанову ахвотна падтрымалі іншыя ўдзельнікі прэзентацыі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Метафарычны лейтматыў мастацкіх твораў




Год навукі беларускія вучоныя ўспрынялі як заклік да актывізацыі навуковай дзейнасці, канцэнтрацыі сіл для завяршэння пачатых навуковых даследаванняў. Не застаўся ўбаку і вядомы беларускі вучоны, доктар філалагічных навук, прафесар Васіль Старычонак. Днямі ў выдавецтве «Колорград» выйшла яго новая манаграфія «Другасныя намінацыі ў мастацкім дыскурсе» — трэцяе з выданняў, аб'яднаных агульнай назвай «Мнагазначнасць слова ў беларускай мове». Гэта працяг пачатай у першым томе «Асноўныя тыпы полісеміі, кірункі семантычнай дэрывацыі» размовы пра спецыфіку мастацкага тэксту, вобразна-выяўленчыя сродкі, розныя тыпы ўвасаблення метафарычнага зместу, чалавека ў мове і маўленні, другасныя намінацыі ў сістэме беларускай мовы.

Кніга мае тры структурныя часткі. У першай характарызуюцца індывідуальна-аўтарскія метафары і іх структурныя тыпы; у другой аналізуюцца вобразна-выяўленчыя сродкі і метафары ў мастацкіх тэкстах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага ды іншых паэтаў. У такіх тэкстах мастак слова імкнецца адлюстраваць асабістае бачанне і разуменне свету і дзеля гэтага асаблівым чынам структуруе мастацкі матэрыял і сістэму вобразна-выяўленчых сродкаў. Трэцяя частка манаграфіі практычная — гэта слоўнік семантычных аказіяналізмаў, у якім апісваецца звыш 1250 сэнсавых метафарычных цэнтраў. Такія метафары не фіксуюцца ў тлумачальных слоўніках беларускай мовы і ўтвараюцца ў канкрэтных кантэкставых фрагментах, якія дазваляюць актывізаваць закладзены ў слове глыбінны семантычны патэнцыял, выклікаць новыя (часам нечаканыя і нестандартныя) вобразы і ўяўленні, выявіць стаўленне да прадмета гаворкі.

Выкарыстаны ў манаграфіі фактычны матэрыял прадстаўлены намінацыямі, якія адносяцца да перыяду функцыянавання беларускай мовы на працягу канца XIX — пачатку XXI стагоддзя. Гэта дазваляе поўна і ўсебакова прадставіць карціну семантычных змен, якія адбыліся ў лексічных адзінках і папоўнілі слоўнікавы склад беларускай мовы шляхам семантычнай дэрывацыі (не за кошт утварэння новых лексічных адзінак, а шляхам выкарыстання тых, што ўжо існуюць, і пашырэння іх сэнсавага аб'ёму). Кожны мастацкі тэкст, на думку В. Старычонка, можна лічыць творчым крэда пісьменніка, своеасаблівым *alter ego*, дзе практычна ўсе ўяўленні, атаясамліванні і асацыяцыі звязаны з канкрэтным індывідуумам, яго практычным, сацыяльным, культурным, прафесійным досведам, крэатыўнасцю вобразнага мыслення, ступенню рэалізацыі суб'ектыўных уяўленняў пра свет. Па гэтай прычыне нават адзін і той жа рэферэнт па-рознаму інтэрпрэтуецца рознымі аўтарамі. Паказальныя прыклады апісання вачэй чалавека — кожны з аўтараў вылучае тыя ці іншыя іх прыметы (колер, форму, глыбіню, іскрыстасць, праніклівасць і інш.): **Вочы** — *бліскучыя ільдзінкі* (З. Бядуля); **Вочы** — *два вугольчыкі ўначы* (Р. Баравікова); **Вочы** — *студні сухія* (В. Лукша); **Вачэй** *бяздонныя азёры* (Г. Бураўкін); **Вочы** *твае — дзве бяссонныя зоркі* (З. Марозаў); **Вочы**, *два шэрыя сонцы* (Д. Бічэль-Загнетава); **Вочы** твае — *зараніца* (У. Міцкевіч); А **вочы** — *валошкі ў жыце* (М. Лынькоў); І **вочы** — *васількі* (А. Русак); *Дзве пралескі — яе* **вочкі** (Я. Купала); **Вочы** — *ягадкі лясныя* (М. Віняцкі); *Яе* **вочы** — *чаршні* (А. Сербантовіч); *Арэхі* **воч** *здзіўлёных* (У. Гетманчук)...

Манаграфію В. Старычонка можна назваць энцыклапедыяй метафар. У ёй з сучасных пазіцый даследуецца феномен метафары, якую калісьці Яўгенія Янішчыц называла нязгаснай іскрынкай, сумленнем і жыццём, этыкетам народнай і мудрай прастасці.

**Наталля ЗАЯЦ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка**

# Улюбёныя ў слова

**Нашай навучальнай установе болей за 70 гадоў, і набыткі яе заўважныя ў развіцці беларускай адукацыі і навукі. Філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна мае вялікую і багатую традыцыю, якую працягваюць годныя спаткаемцы былых пакаленняў выкладчыкаў і супрацоўнікаў. Многія выпускнікі і выкладчыкі факультэта стваралі яму славу, сталі гонарам Берасцейшчыны, Беларусі: Уладзімір Калеснік, Ядзвіга Чарняўская, Вера Зарэцкая (Ляшук), Галіна Малажай, Цімох Ліякумовіч, Аляксей Майсейчык, Мікола Мішчанчук, Васіль Сянкевіч, Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Тычына, Алесь Разанаў, Міхась Рудкоўскі і многія-многія іншыя.**




На факультэце вядзецца падрыхтоўка па некалькіх спецыяльнасцях: «Руская філалогія (літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць)», «Беларуская філалогія (літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць)», «Руская мова і літаратура. Замежная мова (англійская)», «Журналістыка (друкаваныя СМІ)». Выпускнікі факультэта атрымліваюць спецыяльнасці філолага, выкладчыка, літаратурна-рэдакцыйнага супрацоўніка (спецыяльнага, фотакарэспандэнта, рэдактара, карэктара ды інш.) і маюць магчымасць працягнуць навучанне на другой ступені вышэйшай адукацыі (магістратура) не толькі па філалагічных, але і іншых спецыяльнасцях універсітэта.

Наш факультэт заўсёды ў пошуку новых метадаў і форм супрацоўніцтва са школай, вучэбнымі і выхаваўчымі ўстановамі Беларусі ды іншых дзяржаў. Выкладчыкі і студэнты працуюць над выкананнем некалькіх дзяржбюджэтных тэм, удзельнічаюць у рэалізацыі міжнародных праектаў (у тым ліку ў еўрапейскай праграме мабільнасці «Эразмус Мундус»), праходзяць практыку і стажыроўку ва ўніверсітэтах Расіі і Заходняй Еўропы.

На факультэце працуюць навукова-асветніцкі цэнтр Уладзіміра Калесніка, медыяцэнтр, вучэбны кабінет, кабінет рускай мовы як замежнай, вучэбная фальклорна-краязнаўчая лабараторыя. На філфаку створаны рускі цэнтр з багатай бібліятэкай і сучасным тэхнічным абсталяваннем, што садзейнічае далучэнню беларускіх і замежных студэнтаў да спасціжэння духоўных набыткаў братняга народа. Дзякуючы рабоце цэнтра студэнты маюць магчымасць удзельнічаць у міжнародных моладзевых праектах, фестывалях, летніх школах у Расіі ды іншых краінах.

Традыцыйнымі сталі на факультэце сустрэчы студэнтаў і выкладчыкаў з мастакамі слова, што натхняе моладзь на літаратурную творчасць. Нашы навучэнцы бяруць удзел у разнастайных конкурсах, выстаўках, прэзентацыях («Таямніцы слова і думкі», «Неруш роднага слова», «Майстар слова», Міжнародны Пушкінскі фестываль «Друзья, прекрасен наш союз…», Фестываль замежных студэнтаў, Тыдзень творчасці моладзі «Наш Пушкін», Тыдзень журналістыкі ды інш.).

Філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна чакае ўлюбёных у слова, літаратуру, педагагічную справу маладых людзей, амбіцыйных, усіх, хто імкнецца рэалізаваць сябе ў навуковай і творчай дзейнасці.

**Уладзімір СЕНЬКАВЕЦ, загадчык кафедры беларускага літаратуразнаўства, кандыдат філалагічных навук, дацэнт**

# БАРАНАВІЧЫ, ПОЛАЦК І МАЗЫР...

**Стаць дыпламаваным філолагам можна ў вышэйшых навучальных установах не толькі абласных цэнтраў. Калі ласка — Полацкі, Баранавіцкі і Мазырскі педагагічны дзяржуніверсітэты.**

Гісторыкі, выкладчыкі, спецыялісты ў сферы турызму і гасціннасці, філолагі, перакладчыкі — вось пералік прафесій, якія можна атрымаць на гісторыка-філалагічным факультэце Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, які быў заснаваны ў 1994 годзе на базе факультэта замежных моў. Сёння на факультэце дзве кафедры — гісторыі і турызму ды сусветнай літаратуры і замежных моў.

Тут арганізоўваюцца міжнародныя і рэспубліканскія канферэнцыі: па прабемах айчыннай і замежнай літаратуры, гендарных пытаннях, методыцы выкладання. На факультэце заснаваны расійска-беларускі навукова-даследчы цэнтр па вывучэнні нямецкамоўнай літаратуры. Працуюць этнаграфічны, археалагічны і педагагічны атрады, ладзяцца экспедыцыі.

На кафедры сусветнай літаратуры і замежных моў навуковыя канферэнцыі ладзяцца штогод. У выніку — 20 выдадзеных зборнікаў пад назвай «Праблемы гісторыі літаратуры».



Што да «ненавуковай» дзейнасці, то на базе гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 2011 годзе быў створаны фальклорны гурт «Варган» (мастацкі кіраўнік — Вольга Емяльянчык, дацэнт кафедры гісторыі і турызму факультэта). У рэпертуары гурта — беларускія традыцыйныя песні розных жанраў. Карысны набытак — спеўны матэрыял з беларускага Паддзвіння, запісаны гуртам падчас экспедыцый.

Дэкан факультэта Тацццяна Гардзёнак падтрымлівае творчыя ініцыятывы студэнтаў і педагогаў. Так, у 2014 годзе быў выдадзены першы нумар уласнага альманаха «Литературный ОбъектИФФ», на старонках якога друкуюцца творы студэнтаў і выкладчыкаў, гасцей з розных краін.

Рыхтуюць філолагаў і ў Баранавіцкім дзяржаўным універсітэце на факультэце славянскіх і германскіх моў (дэкан — Наталля Круглякова). Факультэт займаецца падрыхтоўкай педагагічных кадраў у сферы адукацыі. Працуюць з будучымі спецыялістамі больш за 80 выкладчыкаў. На факультэце дзейнічае клуб «Паліглот». Тут можна вывучыць другую ці трэцюю замежную мову. У гэтым навучальным годзе працавалі секцыі нямецкай і польскай моў.



Факультэт славянскіх і германскіх моў арганізоўвае навучэнне на пяці кафедрах: «Кафедра агульнага і прыкладнога мовазнаўства», «Кафедра прафесійнай іншамоўнай падрыхтоўкі», «Кафедра тэорыі і практыкі англійскай мовы», «Кафедра тэорыі і практыкі нямецкай мовы», «Кафедра філалогіі».

У гуртах «LinguArt», «ЛИНГВА-АКАДЕМИЯ» і інш. студэнты развіваюць навыкі валодання мовамі ў той ці іншай сферы.

Пасля завяршэння навучання студэнты атрымліваюць кваліфікацыю лінгвіста і выкладчыка замежных моў.

Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Івана Шамякіна чакае абітурыентаў, якія жадаюць атрымаць дыпломы па спецыяльнасцях «Беларуская мова і літаратура», «Руская мова і літаратура», «Гісторыя і грамадазнаўчыя дысцыпліны», «Замежныя мовы» (англійская, нямецкая). Гісторыя філалагічнага факультэта распачынаецца ў 1944 годзе, калі ва ўніверсітэце было створана аддзяленне мовы і літаратуры. За 70 гадоў на факультэце падрыхтавана больш за 7 тысяч спецыялістаў для айчыннай сістэмы адукацыі!



Практыка-арыентаваны характар падрыхтоўкі, магчымасць ранняга ўключэння ў навукова-даследчую дзейнасць, досвед арганізацыйна-творчай дзейнасці дазваляюць выпускнікам паспяхова рэалізаваць свае здольнасці ў абранай прафесіі.

Усё, што патрэбна для выхавання дасканалага спецыяліста, — цікавасць студэнта да абранай спецыяльнасці і, безумоўна, педагогі, якія дапамогуць з вучобай і падтрымаюць ініцыятывы. Філалагічныя факультэты ВНУ гасцінна адчыняюць дзверы для будучых філолагаў, выкладчыкаў і перакладчыкаў.

**Яўгенія ШЫЦЬКА**

## *Конкурс*

**У 25-м нумары «ЛіМа» за 23 чэрвеня 2017 года быў абвешчаны конкурс для выкладчыкаў беларускай літаратуры «Урокі сучаснасці». У якасці ўзору афармлення метадычных распрацовак рэдакцыя прапануе наступны тэкст і з найлепшымі спадзяваннямі чакае конкурсных работ ад чытачоў «ЛіМа», іх калег і сяброў.**

**Гістарычная тэма ў сучаснай беларускай паэзіі**

**Тып урока.** Урок выразнага чытання вершаў; урок каментаванага чытання.

**Абгрунтаванне актуальнасці тэмы.** Урок праводзіцца ў чацвёртай чвэрці навучальнага года для вучняў адзінаццатага класа. Мэты ўрока: пашырыць веды па гісторыі Беларусі напярэдадні выніковага экзамену па гэтым прадмеце; пазнаёміць вучняў з сучаснай беларускай паэзіяй; параўнаць, як гістарычныя рэаліі адлюстроўваюцца ў творчасці прадстаўнікоў розных літаратурных генерацый.

**Пералік твораў, па якіх арганізоўваюцца заняткі.** Рэкамендаваная літаратура: зборнікі вершаў В. Шніпа, Л. Рублеўскай, А. Разанава, А. Сыса, В. Аксак, А. Дэбіша, У. Лобача, Ф. Брыля, М. Мартысевіч ды інш.

**Арыгінальнасць правядзення ўрока.** Вучні напярэдадні атрымліваюць заданне вывучыць на памяць вершы сучасных паэтаў на гістарычную тэму (прысвечаныя паэўным падзеям ці гістарычным асобам) і каротка расказаць пра аўтара твора і пра тыя гістарычныя факты, якія знайшлі адлюстраванне ў вершы; патлумачыць задуму твораў, магчымыя прычыны звароту аўтара да пэўных падзей ды асоб (ўслаўленне мінулага, паралелі з сучаснасцю, пазіцыянаванне пэўнага вобраза-ідэалу і г. д.). Настаўнік прапануе каментарыі да прачытаных вершаў, удакладняе канцэпцыю твораў.

Напрыканцы настаўнік робіць падагульненне, задае пытанні, каб вызначыць, якая эпоха выклікае найбольшую цікавасць аўтараў, чым прываблiваюць творцаў тыя ці іншыя гістарычныя персанажы; выстаўляе адзнакі з улікам не толькі выразнага чытання, але і інфарматыўнасці падрыхтаваных паведамленняў, здольнасці вучняў усталёўваць міжпрадметныя сувязі, аналізаваць мастацкі твор.

**Удзел вучняў у занятках.** Падчас уроку вучні чытаюць на памяць вершы, агучваюць падрыхтаваныя гістарычны (біяграфічны, сацыяльна-бытавы ды інш.) каментарый, задаюць пытанні аднакласнікам, далучаюцца да дыскусій і г. д.

**Вынікі.** Важным наглядным матэрыялам будзе падрыхтаваная да заняткаў храналагічная табліца, дзе падчас уроку будуць пазначацца гістарычныя падзеі, даты жыцця згаданых у творах асоб. Такім чынам, урок дазволіць пашырыць кругагляд, узнавіць гістарычную перыядызацыю і храналагічную паслядоўнасць ключавых падзей.

# ПРЭСТЫЖ ПРАФЕСІІ

## Культура як фундамент развіцця сучаснай моладзі

У Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў паступаюць абітурыенты з розных куткоў не толькі краіны, але і свету. Што матывуе будучых студэнтаў: прэстыж прафесіі, якасць адукацыі альбо магчымасць з першага курса атрымліваць практычны досвед? Адказ ведае рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Юрый БОНДАР.

**— Усё часцей можна пачуць меркаванне, што цікавасць да сферы культуры ў моладзі зніжаецца. Юрый Паўлавіч, уступныя кампаніі ў вашу ВНУ пацвярджаюць ці абвяргаюць гэты стэрэатып?**

— Я абсалютна не згодны з тым, што інтарэс да сферы культуры змяншаецца. Неабходна разумець, што ў нашу сферу ідуць людзі яркія, у якіх ёсць талент, і яны проста не могуць яго не развіваць. Тут правільней было б казаць пра іншае: каб не страціць такіх людзей, даць ім магчымасць раскрыцца, максімальна рэалізаваць іх здольнасці, мы павінны адаптавацца пад патрабаванні сучаснага свету. А гэта значыць — прапаноўваць дысцыпліны і спецыяльнасці, якія карыстаюцца попытам на рынку працы, адпаведным чынам рэгуляваць кантрольныя лічбы прыёму і змест вучэбнага працэсу, прапаноўваць актуальныя сучасным рэаліям курсы па выбары.

БДУКМ адказна ставіцца да таго, каб цікавасць да ўніверсітэта сярод моладзі не зніжалася. Чатыры гады запар у нас няма праблем з конкурсам, але для гэтага мы аператыўна і адэкватна рэагуем на змены на рынку працы, ведаем настрой і перавагі моладзі.

У галіне культуры, пры ўсіх складанасцях, працуюць каля 50 тысяч чалавек. Можна зрабіць выснову, што не грошы вызначаюць галоўную ролю ў культуры, а павага да прафесіі, разуменне, што менавіта культура фарміруе грамадства і краіну.

**— Як лічыце, ці існуе такое паняцце, як прэстыж ВНУ, і якія ў яго складнікі? Колькі студэнтаў ва ўніверсітэце культуры цяпер і якія спецыяльнасці найбольш запатрабаваныя?**

— Прэстыж — адзін з ключавых фактараў, які матывуе абітурыентаў на выбар той ці іншай навучальнай установы. Просты прыклад: ці добра вы ведаеце, якія каледжы ёсць у Оксфардзе, па якіх спецыяльнасцях там вядзецца падрыхтоўка, якія дысцыпліны выкладаюцца і хто іх чытае? Напэўна, не. Але вы ведаеце, што гэта адзін з лепшых універсітэтаў свету і, напэўна, не адмовіліся б ад магчымасці там вучыцца. А прэстыж фарміруецца не толькі за кошт элементаў, якія я пералічыў, але і за кошт меркавання выпускнікоў, ацэнкі з боку працадаўцаў, за кошт прыкладаў паспяховых гісторый выпускнікоў, рэалізацыі ўніверсітэтам значных навуковых, адукацыйных і культурных праектаў. Мы павінны выхоўваць прафесійную культуру студэнтаў, прывіць разуменне прафесіі. У выпадку, калі чалавек зразумеў, што гэтая прафесія не яго, дапамагчы яму адмовіцца, змяніць прафесійны выбар.

Так, у цяперашні час на дзённай і завочнай формах у БДУКМ навучаецца каля 5000 студэнтаў. Сёлета на падрыхтоўку I ступені адукацыі вядзецца набор па 12 спецыяльнасцях, многія з якіх маюць свае кірункі (больш за 25). Дадатковыя магчымасці дае магістратура, аспірантура, а таксама сістэма перападрыхтоўкі.

У ацэнцы запатрабаванасці той ці іншай спецыяльнасці я не арыентаваўся б толькі на лічбы конкурсу. Ёсць так званыя «масавыя» спецыяльнасці, якія маюць на ўвазе шырокія магчымасці для працаўладкавання і магчымасць падрыхтаваць значную колькасць абітурыентаў, а ёсць «адзінкавыя» (іх яшчэ называюць элітнымі), якія арыентаваны на больш вузкі рынак працы пераважна за кошт спецыфічных патрабаванняў да абітурыентаў. Напрыклад, відавочна, што набор на бальныя танцы будзе заўсёды меншы, чым набор на культуралогію, аднак не думаю, што правамерна было б казаць пра меншую запатрабаванасць той ці іншай спецыяльнасці. Наша задача — пастаянна маніторыць попыт, уяўляць, што трэба абітурыентам і якія ў іх перспектывы пасля заканчэння ўніверсітэта.

**— Ці дапамагае выкладчыцкі склад зрабіць навучальны працэс больш цікавым? Хто сёння ў прафесійным касцяку выкладчыкаў: свае спецыялісты ці запрошаныя?**

— Якімі б выдатнымі ні былі навучальныя праграмы, іх рэалізацыя ў канчатковым выніку залежыць ад таго, хто ўваходзіць у аўдыторыю і працуе са студэнтамі. Аснова прафесарска-выкладчыцкага складу БДУКМ — вядучыя ў рэспубліцы спецыялісты напрамкаў, па якіх ажыццяўляецца падрыхтоўка ва ўніверсітэце. Натуральна, што такія людзі не могуць быць не запатрабаванымі і ў іншых арганізацыях. Трэба быць рэалістамі і разумець, што майстар сваёй справы хутчэй за ўсё з вялікім задавальненнем будзе працаваць у



Фота Вікторыі Аскера.

Юрый Бондар.

камерцыйнай сферы, дзе ўзнагароджанне за працу значна большае. Хоць не ўсё так дрэнна з заробкам і ў нас: мы пастаянна займаем першае або другое месца па сярэднім заробку ў галіне — гэта значыць, сапраўды цэнім і падтрымліваем выкладчыкаў. Але і ў тым, што многія хочуць працаваць у бізнесе, я не бачу нічога дрэннага, бо там ад спецыяліста патрабуюць па максімуме, а значыць, ён цалкам раскрываецца, добра ведае і разумее, што чакаюць ад работніка ў гэтай сферы, пашырае прафесійныя кантакты, а затым прыносіць усё гэта назад ва ўніверсітэт, каб падзяліцца са студэнтамі. Вядома, ёсць ва ўніверсітэце і тэарэтычныя курсы, але нямала і практыка-арыентаваных заняткаў. Таму і выкладчыцкі склад у нас разнастайны: ёсць выкладчыкі, якія прапрацавалі ва ўніверсітэце не адзін дзясятак гадоў, а ёсць і запрошаныя спецыялісты, якімі мы ганарымся і супрацоўніцтва з якімі шануем.

**— Як развіваецца ВНУ і сістэма навучання? Ці ўлічваюцца павевы і тэндэнцыі, штоназіраюцца ў культуры апошнім часам? Ці адбіваецца гэта на ўвядзенні новых спецыяльнасцяў?**

— Калі мы жадаем заставацца канкурэнтнай навучальнай установай, павінны ўлічваць тэндэнцыі для элементарнага выжывання ўніверсітэта. Просты прыклад — мы рэалізавалі тры творчыя праекты — мюзіклы «Дуброўскі», «Казанова», а таксама праект «Сем таямніц Беларусі». Гэта першы такога роду досвед у гісторыі ўніверсітэта і вельмі ўдалы. Адразу адчулі павышаную цікавасць да сябе з боку абітурыентаў, студэнтаў, нашых выпускнікоў, прадстаўнікоў шоу-бізнесу. Калі пачыналі, было страшна: ніхто не быў упэўнены ў поспеху. Гэты шлях мы прайшлі першымі за ўсю гісторыю мастацкай адукацыі на тэрыторыі былога СССР. З мюзіклам «Дуброўскі» мы выязджалі ў Маскву, і там нават мэтры расійскай сцэны прызналі, што гэта шэдэўр. За кулісы прыходзілі дэлегацыі, каб паглядзець, у чым падвох: думалі, што ролі на сцэне выконваюць пераапранутыя дарослыя артысты.

Відавочна, што цягам многіх гадоў мы не можам прапаноўваць адны і тыя ж спецыяльнасці: да нас проста перастануць паступаць. Больш за тое, у цяперашні час у рэспубліцы вядзецца актыўная работа па падрыхтоўцы новага класіфікатара спецыяльнасцяў. Не хачу забягаць наперад, але ўпэўнены, што па выніках гэтай працы ўніверсітэт парадуе будучых абітурыентаў новымі спецыяльнасцямі, некаторыя з якіх стануць для краіны ўнікальнымі.

**— Каб адчуць жыццё ў культуры, трэба быць у ёй ужо на этапе навучання? Ці ёсць творчыя праекты (падыходы) для студэнтаў, што садзейнічаюць раскрыццю творчых здольнасцяў?**

— Паглыбленне ў будучую прафесію як мага раней — залог якаснай падрыхтоўкі спецыялістаў, а таксама патрабаванне да вышэйшай школы з боку кіраўніцтва краіны. Улічваючы спецыфіку галіны культуры, творчым праектам і падыходам мы надаём самую пільную ўвагу. Па-першае, у нас вельмі значны кампанент практычных заняткаў у працэсе самога навучання. Па-другое, у нас адна з лепшых у рэспубліцы баз для забеспячэння практычных заняткаў. У прыватнасці, тэхнічнае абсталяванне кафедры эстрады на факультэце музычнага мастацтва не мае аналагаў у Беларусі. Па-трэцяе, мы бяром актыўны ўдзел ва ўсіх культурных мерапрыемствах нашай краіны. Гэта «Славянскі базар», Дзень Незалежнасці, адкрыццё і закрыццё разнастайных чэмпіянатаў, святочныя канцэрты на афіцыйных сходах. Па-чацвёртае, мы рэалізуем уласныя праекты. У цэлым, колькасць мерапрыемстваў ва ўніверсітэце за год перавышае пяць сотняў, гэта значыць, скардзіцца на недахоп магчымасцей для рэалізацыі творчых здольнасцей нашым студэнтам не даводзіцца.

**— Ці ёсць магчымасць удасканальваць веды ў тых, хто адвучыўся раней і хоча развівацца ў нагу з часам?**

— Як і ў іншых галінах, мы забяспечваем павышэнне кваліфікацыі, стажыроўкі і перападрыхтоўку для спецыялістаў. Да нядаўняга часу атрымаць адукацыю можна было толькі на платнай аснове на факультэце дадатковай адукацыі. Так, у сярэднім на перападрыхтоўцы па 10 спецыяльнасцях навучалася больш як 200 слухачоў у год (самы вялікі паказчык у параўнанні з іншымі ўстановамі адукацыі ў галіне). З верасня гэтага года дзяржава, ацаніўшы нашы поспехі і патэнцыял у галіне адукацыі дарослых, даверыла ўніверсітэту і дзяржзаказ на павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку спецыялістаў за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту, а гэта яшчэ ў сярэднім каля 190 слухачоў у год.

Наш універсітэт мы лічым вялікай творчай сям'ёй, садружнасцю студэнтаў і педагогаў. Намі рухае дух партнёрства. Любога студэнта, які падае надзеі, мы адсочваем з першага курса. Нават ведаем нашых абітурыентаў са школьнай лавы. Першапачаткова ставім мэту — знайсці таленты, якія потым становяцца гонарам універсітэта.

**— Як наконт магчымасці стажыровак для вашых студэнтаў, абмену студэнтамі з іншымі краінамі? Адкуль і на якія спецыяльнасці едуць вучыцца больш ахвотна ў вашу ВНУ?**

— Перш за ўсё неабходна размежаваць паняцці «акадэмічны абмен» і «экспарт адукацыйных паслуг». Экспарт — адзін з прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі, і мы, як дзяржаўны ўніверсітэт, робім унёсак у агульную справу. У цяперашні час у БДУКМ па розных адукацыйных праграмах навучаецца каля 500 замежных грамадзян, пераважна з КНР. Праца з замежнікамі патрабуе сур'ёзных фінансавых і арганізацыйных укладанняў. Мы вырашылі сканцэнтравацца на кітайскім рынку, дзе нашы адукацыйныя паслугі запатрабаваныя, а еўрапейская культура, уключаючы беларускую як гонар еўрапейскай, карыстаецца папулярнасцю. У нас мноства ВНУ-партнёраў у многіх кітайскіх правінцыях, а аўтарытэт універсітэта настолькі высокі, што мы не можам нават задаволіць усе заяўкі на навучанне. Распрацавалі шэраг сумесных адукацыйных праграм з кітайскімі партнёрамі, адкрылі і пашыраем англамоўную магістратуру.

Магчымасці абмену для беларускіх студэнтаў, на жаль, больш абмежаваныя. Такія праграмы на пастаяннай аснове існуюць з Гжэльскім дзяржаўным універсітэтам і Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным інстытутам культуры. Асобныя адукацыйныя праекты рэалізуюцца з іншымі краінамі, у тым ліку з Азербайджанам, Польшчай Кітаем. На жаль, адна з сур'ёзных перашкод для развіцця студэнцкага абмену — слабае веданне замежных моў, а таксама абмежаваныя фінансавыя магчымасці.

**— Як адбываецца размеркаванне і працаўладкаванне студэнтаў? Ці лёгка выпускнікам знаходзіць працу?**

— Улічваючы, што мы адказна і старанна ставімся да фарміравання кантрольных лічбаў прыёму, то цягам апошніх гадоў універсітэт не сутыкаецца з праблемамі пры размеркаванні. Больш за тое, на выпускнікоў многіх спецыяльнасцяў сярод працадаўцаў ёсць нават своеасаблівы конкурс, гэта значыць, мы фізічна не ў стане задаволіць усе заяўкі. Адпаведна, і знайсці працу для нашых выпускнікоў пасля абавязковай адпрацоўкі таксама не з'яўляецца праблемай. Мы ўважліва сочым за дзяржаўнай палітыкай у галіне і гатовыя пры неабходнасці даць першае працоўнае месца і студэнтам, якія навучаюцца за кошт уласных сродкаў. Гэта неабавязкова па законе, але многія выпускнікі выказваюць такое жаданне, і мы ахвотна ідзём ім насустрач.

Мы ганарымся нашай фундаментальнай падрыхтоўкай. У нас ёсць кафедра тэорыі і метадалогіі навукі, мы вучым метадам навуковага аналізу. Гэта важна. Таму што правільна выбраныя метады для аналізу той ці іншай з'явы гарантуюць правільны вынік. Мы лічым сябе адказнымі за падрыхтоўку будучага спецыяліста: наш студэнт не проста рамеснік, ён інтэлігент, асоба, якая ўмее думаць.

**Павел ДУБОВІК**

УНП 100286677

# ХТО ЛЕПШЫ?

*Журы давялося шмат парупіцца...*

**«Славянскі базар у Віцебску» — гэта, безумоўна, свята ўсіх мастацтваў. Але сусветную вядомасць ён набыў менавіта дзякуючы сваёй эксклюзіўнай музычнай праграме. Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні і Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2017», урачыстыя цырымоніі адкрыцця і закрыцця фестывалю, сольныя канцэрты зорак эстрады, выступы разнастайных спевакоў, музыкаў і харэаграфічных ансамбляў нанеслі на музычную карту славянскай супольнасці Летні амфітэатр, канцэртную залу «Віцебск» і Віцебскую абласную філармонію. Сёлета спіс летніх мерапрыемстваў папоўніўся ў дваццаць шосты раз.**

## СПЯВАЮЦЬ ДЗЕЦІ

У дзень урачыстага адкрыцця XXVI Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» на гала-канцэрце агучылі пераможцу XV Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «Віцебск-2017». Гран-пры творчага спаборніцтва (і грашовую прэмію ў памеры 5 тысяч долараў) атрымала канкурсантка ад Беларусі Марыя Магільная. І прэмія (3 тысячы долараў) дасталася прадстаўніку Арменіі Эрыку Мкртчану, ІІ прэмія (2 тысячы долараў) была падзелена паміж канкурсантамі з Балгарыі і Казахстана, ІІІ прэмія (1 тысяча долараў) — паміж выступоўцамі з Расіі і Македоніі.

Перамогу беларускай дзяўчынкі патлумачыў радыёвядучы, журналіст, прадзюсар, арганізатар нацыянальных адборачных тураў у Лацінскай Амерыцы Альберта Ларэйдзіс Пярэс Замора. Спадар Замора ў членах міжнароднага журы ўпершыню, хоць на «Славянскім базары» ўжо — у сёмы раз: раней прыязджаў на конкурс у якасці суправаджальніка і кіраўніка лацінаамерыканскай дэлегацыі.

— Сёлета ў дзіцячым спаборніцтве ўзялі ўдзел вельмі моцныя дзеці, але перамога Марыі Магільнай цалкам справядлівая, — паведаміў Альберта Ларэйдзіс Пярэс Замора пасля ўручэння ўзнагароды. — У першы і другі дзень конкурсу выдатна выступілі ўдзельнікі ад Беларусі і Арменіі. Менавіта паміж імі ішла барацьба за Гран-пры. Вырашальным для журы стала тое, што Маша



*Ансамбль «Аліло» на сцэне Летняга амфітэатра ў Віцебску.*

Фота БелТА.

Магільная нават у такім маладым узросце ўжо гатовая для сцэны артыстка, а з Эрыкам Мкртчанам, нягледзячы на тое, што ён надзвычай таленавіты і здольны хлопец, яшчэ ёсць, над чым працаваць.

Сапраўды, за свае 12 год магіляўчанка Марыя Магільная, вядомая беларусам па ўдзеле ў Нацыянальных турах «Дзіцячага Еўрабачання» 2015 і 2016 гадоў, паспела зрабіць сапраўдную кар'еру спявачкі. Яна стала лаўрэатам І прэміі міжнародных вакальных конкурсаў Беларусі, Чэхіі ды Латвіі, атрымала прыз «Сімпатыі журы» фестывалю «Пакаленне *NEXT*» у Расіі і Гран-пры Міжнароднага музыкальнага фестывалю «*Little Shells*» у Сербіі. Валодаць сцэнічнай прасторай на «выдатна» дзяўчыне дапамаглі шэсць год наведвання Тэатра мод Таццяны Палазковай, а таксама досвед ўдзелу ў канцэртных праграмах не толькі ў якасці выканаўцы, але і вядучай.

## СТРАСЦІ ПА ГРАН-ПРЫ

А вось Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2017» сёлета застаўся без галоўнай узнагароды: Гран-пры (адпаведна, і 20 тысяч долараў) журы вырашыла не прысуджаць нікому. Асноўнай інтрыгай конкурсу стала барацьба за першае месца паміж Уладам Сытнікам і Ягорам Шаранковым. За два дні фінальнага спаборніцтва абодва ўдзельнікі набралі 151 бал. Пасля абмеркавання члены міжнароднага журы аддалі І прэмію ўкраінскаму спеваку Уладу Сытніку, ІІ прэмію — беларусу Ягору Шаранкову. Дарэчы, уладальніцу ІІІ прэміі Невену Бажовіч (Сербія) ад змагання за перамогу аддзяліў толькі адзін бал: выніковая адзнака сербкі — 150 балаў. Прыкладам, калі б хто-небудзь з журы ў адным з тураў паставіў ёй дзясятку замест дзявяткі, на закрыцці «Славянскага базару» магла б стацца зусім іншая гісторыя...

Акрамя другога месца, дзевятнаццацігадовы беларус Ягор Шаранкоў атрымаў спецыяльную прэмію імя Уладзіміра Мулявіна за найлепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы і высокае выканальніцкае майстэрства, а таксама спецыяльны прыз Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі (разам з прадстаўніцай Расіі Ліліяй Вельтман). Каштоўным здабыткам можна лічыць і асабістую пахвалу старшыні міжнароднага журы заслужанай артысткі Балгарыі Ярданкі Хрыставай: «Сёлета на “Славянскім базары” з'явіўся новы малады талент. Нягледзячы на тое, што гэта адзін з наймаладзейшых удзельнікаў, ён артыстычны, мае вельмі прыгожы тэмбр ды яркую індывідуальнасць. На мой погляд, Ягор Шаранкоў заслугоўвае Гран-пры».



Фота БелТА.

*Ягор Шаранкоў.*

Нягледзячы на некаторыя несупадзенні ў поглядах (вядома, розныя артысты па-рознаму ацэньвалі намаганні канкурсантаў), унутры журы панавала добрая атмасфера. На заключным пасяджэнні большасць прагаласавала за прысуджэнне першага месца Уладу Сытніку, і перамога ўкраінца цалкам заслужаная. Улад Сытнік — уладальнік моцнага голасу, выпрацаванай выканальніцкай манеры, мае сцэнічны досвед і, безумоўна, талент.

— Мне спадабаліся выступленні многіх канкурсантаў, — падзяліўся меркаваннем Улад Сытнік. — Балгарыя, Італія, Расія, Сербія, Харватыя — цяжка вылучыць кагосьці аднаго, бо ўсе ўдзельнікі надзвычай годныя. Ні ў якім разе не хацеў бы апынуцца на месцы журы: кожны выступоўца па-свойму моцны, і параўноўваць паміж сабой выканаўцаў вельмі складана.

Згодная з ім і старшыня журы Ярданка Хрыстава. Падчас прэс-канферэнцыі яна падкрэсліла, што сёлета канкурсанты паказалі вельмі высокі ўзровень вакальнага майстэрства. Усе спевакі маюць добрую музычную адукацыю і фестывальны досвед, таму вылучыць сярод іх лепшых было цяжка. Калі нельга адразу назваць пераможцу сярод удзельнікаў конкурсу — значыць, спаборніцтва сапраўды вартае ўвагі. Каб патлумачыць некаторыя рашэнні журы, спадарыня Хрыстава згадала, што былі спевакі, якія бездакорна выконвалі кампазіцыі падчас рэпетыцый, але на канцэрце пачыналі хвалявацца і ў выніку дапускалі невялікія хібы. Калі гэта было амаль незаўважна і не псавала агульнае ўражанне ад выступу, журы не зніжала балы, бо ведала, што канкурсант здольны.

— Далейшае развіццё конкурсу залежыць ад ўзроўню спевакоў, якія прыедуць у Віцебск у наступныя гады, — зазначыла заслужаная артыстка Балгарыі Ярданка Хрыстава.

## ФЕСТЫВАЛЬ НЕ МАЕ МЕЖАЎ

Штогод віцебская «алея зорак» (дакладна — плошча лаўрэатаў спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) узбагачаецца на новае імя. Трынаццатай у спісе лаўрэатаў прэміі «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення» стала народная артыстка Грузіі і Расіі Тамара Гвердцытэлі. У Віцебск уладальніца непаўторнага голасу прыязджае яшчэ з тых часоў, калі знакаміты «Славянскі базар» быў Усесаюзным фестывалем польскай песні. За гэты час Тамара Гвердцытэлі неаднаразова брала ўдзел у фестывальных мерапрыемствах і ў якасці спявачкі, і як член міжнароднага журы конкурсу маладых выканаўцаў. Ці не лепшы ўзор таго, што «Славянскі базар» сапраўды не мае межаў?

Тамара Гвердцытэлі — не адзіная «зорка» Грузіі, што прыехала на фестываль у 2017 годзе. У Віцебскай абласной філармоніі з неверагодным поспехам выступіў грузінскі ансамбль «Аліло»: артысты так спадабаліся гледачам, што апладысменты не згасалі і пасля таго, як хор выканаў дадатковую песню на біс. Калектыў, дзе сабраныя прадстаўнікі розных рэгіёнаў Грузіі, знаёміў беларусаў з традыцыйнымі шматгалоснымі (паліфанічнымі) спевамі, спалучэннем народнага і гарадскога фальклору. Разынкай іх выступу стала народная песня «Чакруло» — адна з 27 кампазіцый, якія ў 1977 годзе выправіліся ў космас як узор музычных здольнасцяў чалавецтва ў межах амерыканскай касмічнай праграмы «Ваяджэр».

Назва калектыву, «Аліло», — гэта віншаванне з Калядамі, слова, якое грузіны кажуць адзін аднаму ў Новы год. Чатырнаццацігадовы ансамбль «Аліло» на «Славянскім базары» ўпершыню, але артысты вядомыя ў Грузіі і шмат гастраліруюць па Расіі і Еўропе. Выступоўцы расказваюць, што на радзіме яны — частка паўсядзённага жыцця краіны: «Нельга ўявіць Грузію без фальклору. Нашы людзі жывуць з фальклорам, гэта традыцыя, таму мы часта ўдзельнічаем у розных праграмах і фестывалях, здымаемся на тэлебачанні».

— Мы хочам захаваць кантакты з Беларуссю, прыязджаць сюды і надалей, таму што Беларусь — добрая краіна з вельмі адкрытымі людзьмі — нам вельмі спадабалася, — падзяліліся ўражаннямі артысты ансамбля «Аліло».

У праграме «Фестываль без межаў» выступіў Дзяржаўны акадэмічны ордэна Дружбы народаў ансамбль танца «Алан» (Рэспубліка Северная Асеція — Аланія), а таксама адбыўся гала-канцэрт майстроў мастацтва Ізраіля, які распачаў член журы Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2017», саліст Ізраільскай оперы і Ізраільскага філарманічнага аркестра пад кіраўніцтвам Зубіна Меты Фелікс Ліўшыц.

Дзень Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі адзначылі юбілейным канцэртам ансамбля «Сябры». У памяць народнага артыста Беларусі Аляксандра Ціхановіча арганізавалі канцэрт «У дзень народзінаў артыста». На сцэне Летняга амфітэатра маштабна прайшлі гала-канцэрт папулярных маладых выканаўцаў «Я люблю *fest*ываль!» і спевакоў з усяго свету «*International voice in Vitebsk*», юбілейны канцэрт «Аляксандр Зацэпін. Ёсць толькі імгненне…», канцэрты «Вітае Украіна», «Залаты хіт», «Шансон ТВ — усе зоркі». Аншлаг сабралі сольныя выступы Грыгорыя Лепса, Стаса Міхайлава, Валерыя Меладзэ.

XXVI Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» 19 ліпеня завяршыў канцэрт групы «Сплін» з праграмай «Ключ да шыфру».

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# АДСУТНАСЦЬ ФІЛЬТРАЎ



**Звычайны кінафестываль — гэта жорсткі адбор, дзе да гледача даходзяць стужкі, якія адабрала журы. «Нефільтраванае кіно» — сітуацыя зусім іншая. Фільмы для публікі тут не адбіраюць — паказваюць тое, што прыходзіць (а гэта кіно з Еўропы, Азіі, Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі). Цікавасць да такога кшталту праглядаў толькі павялічваецца: сёлета праект адзначае сваё трохгоддзе чарговым фестывалем, які ладзіцца з 21 па 23 ліпеня. Навошта нам патрэбныя неадсартаваныя фільмы, распавёў стваральнік праекта Аляксандр Мартынюк.**

**— Паглядзець за тры дні ўсе конкурсныя карціны немагчыма. Таму кіно без фільтра таксама трэба выбіраць. Як гэта адбываецца?**

— У мінулых выпусках «Нефільтраванага кіно» мы не адбіралі стужкі наогул. Адзінае, што вырашылі сартаваць, — гэта «Амерыканскі *DIY*». Таксама рабілі падборкі для непадрыхтаванага гледача і для кінааматара, бо тыя стужкі, што ўваходзілі ў раздзел для падрыхтаванай публікі, нават горшыя за арт-хаус, вельмі складаныя для ўспрымання і разумення. Сёлета фільмаў прыйшло вельмі шмат, таму конкурсную праграму вырашылі зрабіць з больш лёгкім кіно, якое спадабаецца кінаману і масаваму гледачу, і пазаконкурсныя паказы. А крытэрый адбору быў просты: уключалі ў праграмы стужкі, рэжысёры якіх пагадзіліся прыехаць на фестываль.

**— Як прыйшло разуменне, што такі праект патрэбен?**

— Мы з сябрамі заснавалі кінафестываль *Cinema Perpetuum Mobile*, рабілі перадпрагляды перад конкурсам (прайшло больш за 30 кінапаказаў за 4 месяцы). Неверагодны досвед — калі вялікая колькасць абсалютна розных людзей збіралася і глядзела ўсё, што дасылалі на адбор кінафестывалю. Тое самае кіно «без фільтра». Менавіта з гэтага і вырасла мая ініцыятыва «Нефільтраванае кіно». Мне падабалася атмасфера кватэрніка, калі ў хатняй абстаноўцы можна глядзець нонстопам па 30 стужак запар.

**— Што прадугледжвае канцэпцыя «Нефільтраванага кіно»?**

— Фестываль заўсёды змяняецца, няма канона. Але першапачатковая ідэя — каб глядач не адарваўся ад рэальнасці, а, наадварот, паглыбіўся ў яе яшчэ больш. Мяркую, гэта кшталту горкай пілюлі, але глядач тут становіцца экспертам у мастацтве, спрабуе зразумець: сапраўдны ці несапраўдны той ці іншы мастацкі твор. Мы не даём устаноўку, што бачыць на экране, — мы прапаноўваем стаць даследчыкам мастацтва, вось і канцэпцыя не мае значэння: мастацтва ці не, гэта выказванне, і трэба глядзець яго як ёсць, без фільтра.

**— У праграме — стужкі ледзьве не з усіх краін, але беларускіх няма...**

— Летась айчынныя рэжысёры даслалі нам толькі тры фільмы, таму сёлета нацыянальную праграму вырашылі скасаваць. Чамусьці айчынныя кінематаграфісты не вельмі актыўныя, іх даводзіцца ледзьве не прымушаць паўдзельнічаць у фестывалі. Не ведаю, з чым гэта звязана, магчыма, з тым, што наша ініцыятыва некамерцыйная і не мае сувязі з кінаіндустрыяй. Здаецца, быццам «Нефільтраванае кіно» несур'ёзнае і несапраўднае, бо ніякай фінансавай карысці ўдзел у праекце не прынясе. Да таго ж ёсць магчымасці паўдзельнічаць у конкурсах за мяжой, а гэта лічыцца больш прэстыжным.

**— Амерыканскі фестываль аўтарскага кіно «*Sundance*» збірае вялізную аўдыторыю. А якая тэндэнцыя на «Нефільтраваным кіно»?**

— Калі ацэньваць беларускую аўдыторыю кінааматараў колькасна, то гэта дробныя часцінкі, якія носяць мікра- ці нанахарактар, гэта вельмі незаўважная лічба людзей, асабліва ў параўнанні, скажам, з канцэртам Стаса Міхайлава. Таму казаць пра публіку складана, але прыкладная колькасць наведнікаў паказаў — каля некалькіх дзясяткаў, часам 50. Узгадалася гісторыя, калі мы ладзілі фестываль *CPM* у холе кінатэатра «Цэнтральны», а ў гэты ж час у зале ішоў нейкі блокбастар. Мы шукалі нашага гледача, раздавалі лістоўкі, і хтосьці з тых, каму мы далі лістоўку, сказаў: «Я што, падобны да таго, хто ходзіць на фестывалі?». Вось такая сітуацыя з аўдыторыяй, але гэта праблема не толькі Беларусі — у Германіі, напрыклад, здараецца, што на буйны паказ не прыходзіць ні аднаго чалавека.

**— Акрамя кінапаказаў вы будзеце ладзіць лекцыі і майстар-класы. Як збіраецеся адукоўваць гледача?**

— Мы не супраць таго, каб адукоўваць гледача ў пытаннях кінематографа, але ўсё ж галоўнае для нас — размова. Мы запрасілі для майстар-класаў прафесіяналаў, якія могуць быць цікавыя нашай аўдыторыі: напрыклад, Дыега Фандас выкладае ў Пражскай кінашколе і зняў фільм «Космас» па матэрыялах, сабраных ва Усходняй Еўропе, а Майкл Флорэс рыхтуецца да здымак свайго фільма ў Мінску і шукае аднадумцаў, якія маглі б паўдзельнічаць у здымках, таму дыялог будзе карысным для абодвух бакоў.

**— Чым каштоўны кароткі метр?**

— Тым, што гэта малабюджэтнае кіно, а значыць, дае большую творчую свабоду і больш магчымасцяў выказацца. Адзін з рэжысёраў, які дасылаў нам заяўку на ўдзел, параўнаў караткаметражныя стужкі з музыкай. Магу патлумачыць гэта такім фактам: у Беларусь прыедзе амерыканскі рэжысёр Майкл Флорэс, які тут хоча зняць фільм так, каб у ім быў заўважны нацыянальны каларыт. І ў кінематаграфіста ёсць дылема: звяртаць больш увагі на тэхнічныя моманты ці здымаць на драйве, як ёсць. Вось гэта і ёсць асаблівасць кароткага метра — нешта незаўважнае, як у музыцы, драйв. Кароткі метр — моцны канцэнтрат, які асабліва важны сёння, калі ў людзей не хапае часу на поўнаметражнае кіно.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# З ВЁСКІ — У ПОСТРЭАЛЬНАСЦЬ

**Вучыцца здымаць кіно, натхняцца навыкамі і досведам майстроў кінамастацтва, жывучы пры гэтым у палатках на прыродзе, — жаданне кожнага кінааматара. «Хранатоп» — праект, прысвечаны незалежнаму караткаметражнаму кіно, — прапануе такую магчымасць.**

«Штаб» мультымедыйнага праекта «Хранатоп» знаходзіцца ў аграсядзібе «Арт-вёска Каптаруны» ўжо другі год. Нязменнымі застаюцца і арганізатары: беларускія рэжысёры Андрэй Кудзіненка і Андрэй Палупанаў, а таксама пісьменнік і мастак Артур Клінаў, які і стварыў з Каптарунаў, што знаходзіцца за 200 км ад Мінска на мяжы з Літвой, арт-вёску.

— У Беларусі шмат падзей, але нашая галоўная праблема — адасобленнасць. Рэжысёры закрытыя, сядзяць у розных кутах самі па сабе. Таму асноўная ідэя нашага праекта — адкрытасць і супрацоўніцтва, — патлумачыў Андрэй Кудзіненка.

Сёлета праект пашырыў межы: фестываль стаў міжнародным. Сярод удзельнікаў можна сустрэць Андрэя Сільверстава, рэжысёра з Расіі, заснавальніка Лігі эксперыментальнага кіно і клуба Сіне-Фантом. Пакажуць свае фільмы рэжысёры Пётр Расалоўскі з Польшчы і Аляксандра Чупрына з Украіны.

Падзеі «Хранатопа» падзяляюцца на дзве часткі — тэорыю і практыку, ці кінафорум і кіналетнік. Форум памежнага кіно «ХРАНАТОПь. ART: REBOOT» пройдзе ў Каптарунах 22 і 23 ліпеня. Сёлета на форуме абмяркоўваецца кіно памежжа, «пераходу», мастацтва паміж камерцыйным і аўтарскім, сацыяльным і эксперыментальным, (пост)рэальным і выдуманым, аналагавым і лічбавым, індустрыяльным і постындустрыяльным. Абстрагавацца ад свету, акунуцца ў творчую атмасферу — галоўнае, чаму будуць вучыцца ўдзельнікі. Памерці ў адным стане, а нарадзіцца зусім у іншым. Дарэчы, распачне форум лекцыяй «Памежнасць: дыягназ часу ці трэнд?» адзін з арганізатараў праекта Андрэй Кудзіненка.

За гэтыя два дні адбудуцца кінапаказы, сустрэчы з рэжысёрамі і перфомансы. Запланаваныя лекцыі філосафаў Альміры Усманавай і Андрэя Горных, гукарэжысёра Яўгена Рагозіна, кінакрытыка Антона Сідарэнкі. Між іншым узяць удзел у форуме можа хто заўгодна: і той, хто ўжо калісьці працаваў у кіно, і той, хто сутыкаецца з гэтым упершыню.

Працягнецца форум адукацыйным кіналетнікам Андрэя Палупанава і Андрэя Кудзіненкі, які праявяцца з 24 па 28 ліпеня. Цягам тыдня ўдзельнікі будуць вучыцца ствараць кіно з нуля — такая практыка карысная як для рэжысёраў, акцёраў, аператараў, сцэнарыстаў, так і для аматараў кінематографа. Вынікам школы стануць караткаметражныя фільмы, лепшыя з якіх увойдуць у кінаальманах «Хранатоп».

— Будзем працаваць невялікімі камандамі з чатырох-пяці чалавек. Гэта ж вельмі займальна — сачыць за тым, як з гаму нешта нараджаецца. Галоўнае — супрацоўніцтва, наша калектыўная праца. Варыцца ў гэтым «узвары» рыхтаваць незалежнае і парадаксальнае кіно будзем усе разам. Бо кіно — гэта ж мастацтва. Але ўсё, што цяпер паказваюць у кінатэатрах, мастацтвам назваць цяжка, — распавёў Кудзіненка.

Ствараць кіно — праца нялёгкая, а ствараць караткаметражнае кіно — яшчэ больш складана. За невялікую колькасць часу трэба паспець распавесці пра самае важнае. Тыя кінапрацы, што былі адзнятыя летась, атрымаліся нестандартнымі і сапраўды парадаксальнымі. Напэўна, таму што былі створаныя сапраўды зацікаўленымі ў развіцці беларускага кіно. А які ж патэнцыял у беларускіх незалежных рэжысёраў? Андрэй Кудзіненка адзначае, што патэнцыял ёсць ва ўсіх і заўсёды:

— Пытанне ў іншым: што далей? На першым этапе ўсе мастакі, але што за гэтым? З кім супрацоўнічаць? І як пракатваць? Мы ж здымаем кіно калектыўна за пяць капеек. Шчыра кажучы, я быў здзіўлены нашым дэбютам год таму. Напрыклад, дзве працы, «Адамаў яблык» і «Вянок», атрымаліся вельмі моцнымі, фестывальнымі. Яшчэ пяці фільмам пазайздросціла б нават Акадэмія мастацтваў.

Нягледзячы на тое, што леташнія фільмы настолькі здзівілі, арганізатары спадзяюцца, што сёлета будзе хаця б не горш, чым у мінулым. Мабыць, атрымаецца адкрыць новыя таленты ці нават стварыць сапраўдныя шэдэўры кароткага метра.



*Падчас мінулагодняга кінафоруму.*

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**



Фота Вікторыі Пальчык.

Сцэна са спектакля «1517».

# Спрэчка за Скарынаву Біблію,
## або Дзея без антракту

На наша пакаленне выпаў сур'ёзны юбілей — пяцісотгоддзе беларускай Бібліі і кнігадрукавання. Гэта свята цэлай нацыі. Таму невыпадкова, што 2017 год праходзіць пад знакам першадрукара Францыска Скарыны. Да яго асобы звярнуліся ў сваіх разважаннях аўтары п'есы «1517» Аляксей Шэін і Андрусь Унучак, перадпрэм'ера якой ужо адбылася на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Жанр пастаноўкі — «контраверсія без антракту», — менавіта так ахарактарызавалі яе аўтары.

Што ж чакаць гледачу ад п'есы, якая не дае адказаў, а толькі ставіць пытанні? Слова «контраверсія» ўжывалася ў часы Рэфармацыі для вызначэння светапогляднага дыспуту, які і адбываецца на сцэне. Праўда, не чакайце боек, тут найлепшая зброя — слова. І перамагае не фізічная сіла, а моц выказанай думкі, бо ўсё ж такі публічна ў спрэчцы будуць мерацца розумам вучоныя Францыск Скарына (Яўген Казакевіч) і яго апанент Сільвіус (Уладзімір Лісоўскі). І гэта будзе кульмінацыйная, самая важная спрэчка.

Аднак не першая ў жыцці Скарыны. Канфлікт меркаванняў наспеў яшчэ ў пачатку п'есы, калі бацька Францішка не згаджаецца з пазіцыяй сына і забараняе яму вучыцца на лекара, бо трэба працягнуць сямейную справу. Але ж юнак упарты і даказвае бацьку яго памылковасць: «загарнуліся ў свае ліцвінскія скуры і нічога не бачыце».

У спектаклі скарыстаны відэашэраг загадзя запісаных сцэн размовы бацькоў першадрукара. Сам жа Скарына знаходзіцца ў гэты час на сцэне і гаворыць з татам, маці і братам, — такую тэхнічную знаходку вынайшлі рэжысёры.

— Мы імкнуліся рэканструяваць вобраз Скарыны. Задумаліся над пытаннем, чаму, лекар па адукацыі, Францыск стаў перакладаць Біблію на мову, набліжаную да народнай, а пасля і выдаў яе. Што ж хацеў сказаць нам першадрукар? — падзяліўся думкамі гісторык Андрусь Унучак.

У пастаноўцы шмат асаблівасцяў. Напрыклад, спалучэнне сучасных дэкарацый і старажытных касцюмаў. Акцёры, задзейнічаныя ў п'есе, не ўсе прафесіяналы. Ёсць сярод іх аматары, з пэўным досведам у тэатральных пастаноўках, хоць па прафесіі інжынеры, будаўнікі, завуч школы, нават хатняя гаспадыня. На маю думку, такі акцёрскі склад надае п'есе народнасці, аб'ядноўвае людзей з рознымі светапоглядамі і ладам жыцця. Невыпадкова прачытваю ў гэтым знак-адсылку да Скарынавай Бібліі. Яна ж была надрукавана на мове, набліжанай да народнай. Таму задзейнічанне ў п'есе не тэатралаў — сведчанне роўнасці.

— У п'есе робіцца акцэнт на тое, што Скарына першай кнігай надрукаваў менавіта Біблію. Будучы лекарам, ён зрабіў асабістае адкрыццё пра гаючасць Слова Божага. Падкрэсліваем, што святкуем менавіта пяцісотгоддзе выдання першадрукарам Бібліі, а не проста юбілей кнігадрукавання. І беларусам варта памятаць, што Скарына быў не толькі асветнікам ды гуманістам, але і шчырым вернікам. Спектакль павінен нагадаць пра штодзённы ўжытак Бібліі, — падзялілася думкамі Алёна Сітнік, мастацкі кіраўнік праекта.

Скарына, якога бачым на сцэне, расчароўваецца ў моцы лекарства пасля таго, як вылечаны ім чалавек забіў шасцярых асоб. Гэты факт падштурхнуў доктара Францыска да зменаў свайго светапогляду і адкрыцця: можна вылечыць цела, а не душу. Бо ўсё роўна застаюцца здрады, махлярства, крадзяжы.

— На вачах у гледача адбываецца ўнутраная трансфармацыя Скарыны, ён хоча змяніць свет да лепшага, разумеючы, што ў яго вялікае пакліканне. Такім чынам, Скарына ратуе ад смерці сваім перакладам Бібліі цэлы народ, — распавёў Андрусь Унучак.

Сільвіус і Скарына горача спрачаюцца. Скарына сцвярджае, што «праўда адна, а хлусня ў кожнага свая». Сільвіус сцвярджае, што «адзінай праўды няма» і «вера пацярпела паразу. Бог не патрэбен сучаснаму чалавеку». Тады Скарына пераўвасабляецца ў прарока, які з шаснаццатага стагоддзя ўглядаецца ў наш час ды кажа пра ГУЛАГ і газавыя камеры, Асвенцым і Курапаты. Расказвае пра зло, якое можа зрабіць чалавек, што адышоў ад Бога. Мы ведаем, што Скарына дасягнуў мэты жыцця — выдаў Біблію для свайго народа. І адбылася гэтая падзея 6 жніўня 1517 года, у дзень Перамянення Гасподняга. Каб зрабіць гэта, колькі цяжкасцяў яму давялося пераадолець! Не апошняя з іх — пошукі грошай, што таксама паказана ў спектаклі.

Запомніўся момант, калі Скарына, апрануты ў чырвонае, стаіць, задуменны, а за спінай у яго — нібыта крыж, як у Ісуса. Францыск размаўляе з Богам, пытаючы ў яго: «Ці ж давёўшы да родаў я не дам нарадзіць?» Кніга са Словам Божым для Скарыны падобна да доўгачаканага дзіцяці. І «месца праўды — быць паўсюль».

— У Скарыны мяне найбольш цікавяць духоўныя пошукі. Я да веры прыйшоў, калі вучыўся на пятым курсе філфака. Хоць з дзяцінства быў скептыкам. У юнацтве высмейваў вернікаў, негатыўна ставіўся да іх. Але ўва мне адбылися пэўныя ўнутраныя змены. Звышзадача п'есы — паставіць чалавека перад пытаннямі, якія не залежаць ад кантэксту часу, а застаюцца заўсёды актуальнымі, — распавёў аўтар п'есы Аляксей Шэін.

Філасофскі спектакль «1517» падштурхоўвае да разваг над панāццямі «дабра» і «зла», уцягваючы гледача ў дыспут, які цягнецца з часоў Адама і Евы. І цяжка застацца абыякавым, таму што Словам Божым, запісаным у Бібліі, — не гандлююць, а запамінаюць яго сэрцам, каб жыць на зямлі Чалавекам.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

# Спектаклі вулічныя, лялечныя, драматычныя

## Што прапанавалі падчас «Славянскага базару»?

**Свята мастацтваў, якое разгарнулася ў межах Міжнароднага фестывалю «Славянскі базар у Віцебску», не забылася пра валоданні Мельпамены. Нягледзячы на хмурнае неба, у горадзе стварылі надзвычай вясёлую і добразычлівую атмасферу. Не апошняя роля ў наданні Віцебску святочнага настрою належала тэатрам. Куды пайсці гасцям фестывалю, калі на вуліцы крапае дождж? Вядома, на спектакль! Да таго ж праграма атрымалася надзвычай разнастайнай: лялечныя і драматычныя пастаноўкі, вулічны тэатр, калектывы з Беларусі і замежжа — культурны адпачынак на любы густ і ўзрост.**

### СУСТРЭЧЫ З ЛЯЛЬКАЙ

Тэатральную праграму фестывалю спланавалі так, што можна было трапіць на спектаклі розныя па стылі і жанры. Калектывы, якія прыехалі ў Віцебск з-за мяжы, адзначалі: пастаноўкі для ўдзелу ў «Лялечным квартале» абіралі з улікам пляцоўкі, дзе будзе ісці спектакль; тэмы — каб можна было зацікавіць гледачоў з розных краін; а таксама формы — каб не было аднастайнасці. Дзякуючы каласальнай працы арганізатараў у праграме знайшлося месца для эксперыменту (вядома, з захаваннем якасці і высокага мастацкага ўзроўню). Жыхары і госці Віцебска адкрылі новыя тэатры, калектывы, імёны.

Сцэну для выступаў прадаставіў Беларускі тэатр «Лялька». У спіс пастановак «Лялечнага квартала» трапілі два яго цікаючыя спектаклі — «Брэменскія музыкі» і «Вясёлы Дарафей». Акрамя «Лялькі» ад Беларусі на «Славянскім базары» ўдзельнічаў Гродзенскі тэатр лялек (пастаноўка «Царэўна-жабка»). Цікавым быў монаспектакль Івана Кірчука «Дарожка мая» па матэрыялах беларускага фальклору. Прыехалі калектывы з Расіі, Украіны і нават Швецыі. Пастаноўкі давалі не толькі дзіцячыя. Прыкладам, маладзевы анімацыйны тэатр «ЁСЦЬ» з Украіны паказаў спектакль «Белы параход» па творы Чынгіза Айтматава для адносна дарослай аўдыторыі (14+).

Сярод расійскіх гасцей — Белгародскі дзяржаўны тэатр лялек. Сёлета яны прывезлі спектакль «Слон» па аднайменным апавяданні Аляксандра Купрына. Калектыў ужо выступаў у Віцебску, але ў «Славянскім базары» ўзяў удзел упершыню.

— Фестываль — гэта высокая планка, — кажа галоўны рэжысёр Белгародскага тэатра лялек Уладзімір Гусараў. — На фестывалі трэба па максімуме паказаць усё сваё майстэрства, бо спектакль глядзяць і ацэньваюць з розных краін. Меркаванне пра тэатр разліцца па свеце, таму наш калектыў хваляваўся перад выступам і зараз вельмі рады, што «Слон» гледачу спадабаўся.

### НАПРАСТКІ ДА ГЛЕДАЧА

Штодзень за паўгадзіны да пачатку чарговага спектакля перад галоўным уваходам у тэатр «Лялька» адбываліся «хэпэнінгі» для дзяцей і дарослых. Акцёры мясцовых і замежных тэатраў выходзілі на вуліцу, каб пагуляць з дзецьмі, паказвалі цікавыя мініяцюры, стваралі непасрэдную і святочную атмасферу. Трэці раз у праграме «Славянскага базару» арганізавалі фэст вулічнага мастацтва «На сямі вятрах». У фэсце бралі ўдзел тэатральныя і харэаграфічныя калектывы, музыкі, паэты, перформеры. У некаторыя дні ладзілі майстар-класы. Так, шведскі тэатр «Альбатрос», які выйшаў на сцэну «Лялькі» са спектаклем «Дзяўчынка і марская чарапаха», правёў цікавы майстар-клас для мінакоў наўпрост на вуліцы Віцебска. Не застаўся ўбаку ад фэсту «На сямі вятрах» і сам тэатр «Лялька»: яго прадстаўнікі вывелі на вуліцу спектакль «Шагал. Сыход» рэжысёра Дар'і Зімніцкай.

— «Славянскі базар», калі ўжо яго назвалі «базарам», мусіць быць шырэй за конкурсы эстрадных спевакоў. Базар — гэта ў першую чаргу людзі, — адзначае мастацкі кіраўнік Беларускага тэатра «Лялька» Віктар Клімчук. — Раней было так: на канцэрты і іншыя імпрэзы ходзяць тыя, хто набыў квіткі. Астатнім жыхарам горада цяжка было паверыць, што ў Віцебску зараз праходзіць нейкае свята. Трэба не проста гандляваць ежай і дэманстраваць розныя вырабы. На вуліцу павінна ісці мастацтва, павінны быць вулічныя тэатры, імпрэзы. І вось нарэшце з'явіўся «Лялечны квартал». І ўжо 4 гады з поспехам працуе на «Славянскім базары», бо ў ім ёсць неабходнасць.

### ТЭАТРАЛЬНЫЯ ВЕЧАРЫ

Кожны вечар фестывалю адзначаўся праграмай «Тэатральныя сустрэчы». У Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Я. Коласа і канцэртнай зале «Віцебск» ладзілі драматычныя спектаклі тэатры Беларусі і Расіі. Нашу краіну прадставілі Тэатр-студыя кінаакцёра з пастаноўкай «Лёгкага жыцця ніхто не абяцаў» ды мюзікл «Казанова» ад Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (рэжысёр Кім Брэйтбург).



Фота Віктара Нікалаева.

На сцэне Беларускага тэатра «Лялька» ішлі спектаклі для дзяцей і дарослых.

Некалькі спектакляў адначасова прывезлі Маскоўскі тэатр на Паўднёвым Захадзе і расійскае тэатральнае агенцтва «АРТ-ПАРТНЁР XXI». Маскоўскі тэатр ставіў трагедыю «Макбет» і так званы «шахматны дэтэктыў» пад назвай «Гульня ў Напалеона» на сцэне НАДТ імя Я. Коласа. Тэатральнае агенцтва «АРТ-ПАРТНЁР XXI» зрабіла акцэнт на вядомых расійскіх акцёрах, што бралі ўдзел у іх пастаноўках. «Джудзі» з Нонай Грышаевай, музычны монаспектакль «Зорны хлопчык» з Дзінай Корзун, «Сямейная вячэра а палове на другую» (Ганна Бальшова, Анатоль Васільеў, Вольга Волкава) выклікалі надзвычайную цікавасць у гасцей фестывалю.

У дзень закрыцця «Славянскага базару» канцэртная зала «Віцебск» збірала наведнікаў на драму «Мужчынскі водар» (у галоўных ролях — Даніл Страхаў, Вольга Ламаносава, Інга Аболдзіна) ад тэатральнай кампаніі «Маскарад». На наступны дзень пастаноўка выправілася ў Мінск. Цікава, якія са спектакляў фестывалю беларусы пабачаць зноў, а якія так і застануцца віцебскім эксклюзівам?

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



Дар'я Раманенка «Пені-фартынг», 2014 г.

# Адкрытая маладосць

## у творах малодшага пакалення айчынных мастакоў

За апошні год у Палацы мастацтваў арганізавана вялікая колькасць арыгінальных праектаў, што маюць на мэце раскрыць творчы патэнцыял маладых аўтараў. Гэтыя выстаўкі прадэманстравалі магчымасці мастакоў і іх жаданне развівацца, набірацца досведу, адточваць індывідуальны почырк. На мінулым тыдні ў Палацы мастацтваў прэзентавалі чарговую выстаўку маладых творцаў «*Open youth*», што экспануе творы сяброў моладзевай секцыі Беларускага саюза мастакоў, а таксама запрошаных мастакоў ва ўзросце да трыццаці пяці гадоў.

Канцэпцыю выстаўкі падказвае назва праекта. У перакладзе з англійскай на беларускую выстаўка называецца «Адкрытая маладосць», адкрытая, таму што напаказ. Арганізатары вырашылі паказаць не проста асобны пласт моладзевых твораў, а адабралі сапраўды дзёрзкія работы, якія дэманструюць самыя шчырыя пачуцці.

— Гэта можна лічыць трамплінам у дарослае мастацкае жыццё, — адзначыў на адкрыцці праекта старшыня моладзевай секцыі Беларускага саюза мастакоў Міхаіл Фінскі. — Выстаўка дае магчымасць аўтарам вучыцца адзін у аднаго, аналізаваць, бачыць праблему не толькі ў рэальным жыцці, але і ўмець знайсці яе ў творчасці. Такія праекты, як правіла, маюць асаблівы сэнс у сучасным мастацкім грамадстве: яны сімвалічна паказваюць, што цікава сёння маладому чалавеку, якія праблемы хвалююць і як ён прапануе іх вырашаць. Досвед заўсёды важны, але часам юнацкі парыў, запал у сукупнасці з талентам могуць даць унікальны мастацкі вынік.

Мастацкія творы не абмежаваныя формай, тэматыкай альбо матэрыялам. І гэта дае аўтарам мастацкую свабоду. Большасць твораў прысвечаны каханню, маладому і чароўнаму, якое паглыбляе ў дарагія і цёплыя ўспаміны. Мастак агаляе душу, пад крыламі рамантыкі бачны балючы нерв.

Наведвальнікаў чакае мноства жаночых вобразаў, якія мастакі параўноўваюць са стыхіямі. Жанчына можа быць лёгкая як паветра, гарачая як агонь і спакойная як вада. Галоўная задача аўтараў — захаваць у творах гармонію, адцягнуць увагу ад паўсядзённых праблем, паглыбіць у свет рамантыкі, зачапіць ідэяй.

— Адкрыта і шчыра выказаўся кожны мастак: работы глыбокія, філасофскія, хоць сёлета ў моладзевай выстаўцы ўдзельнічае не так і шмат творцаў, — падкрэсліў першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Глеб Отчык. — Калі такія выстаўкі мы арганізоўвалі раней, працавалі з раніцы да вечара. Гэтым разам справіліся за адну гадзіну. На жаль, мала маладых мастакоў адгукнулася паўдзельнічаць у праекце. Але творы, размешчаныя на сценах Палаца мастацтваў, вартыя ўвагі і аналізу. Хацелася б больш актыўнай працы з боку мастацкай моладзі, але нам і зараз ёсць чым ганарыцца і што развіваць.

У аснове сюжэтаў маладых мастакоў — сямейныя каштоўнасці, элементы айчыннай культуры, гістарычныя матывы. Майстры разбураюць стэрэатыпы, паказваюць, што могуць мысліць глыбока і ўдумліва. Многія з іх адмаўляюцца ад класічных падыходаў адлюстравання, уносяць наватарскія ноты ў фарміраванне мастацкага працэсу, развіваюць творчы густ. Цікава, як аўтары падбіраюць колеры для твораў. Тут практычна няма пастэльных тонаў, пераважаюць стракатыя адценні, часам увогуле нечаканыя спалучэнні.

Арганізатары адзначаюць, што выстаўка «*Open youth*» будзе карыснай для тых, хто шукае сябе і сваю душу, і для тых, хто ў прадказальнам супакоі, і нават для тых, хто нібы маятнік!.. Наведаўшы «*Open youth*» , кожны зможа паставіць «дыягназ» сваёй душы: ці здольная яна адкрыцца для абмену энергетычнымі плынямі з мастацтвам?

**Вікторыя АСКЕРА**



Дар'я Шышкова «Туманнае каралеўства», 2016 г.

## Культурны ракурс



Здаўна ў Беларусі жылі прадстаўнікі розных рэлігійных канфесій. Аднак суіснаванне людзей далёка не заўсёды было мірным. Таму нашы продкі ўзводзілі ўнікальныя храмы-крэпасці, якія гарантавалі не толькі нябеснае заступленне, але і надзейную абарону ад ворагаў. Да ліку такіх адносяцца культавыя будынкі ў вёсках Сынкавічы, Мураванка і Камаі. Дарэчы, усе тры храмы выдатна захаваліся.

Касцёл Святога Іаана Хрысціцеля ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна сумяшчае рысы готыкі, рэнесансу і барока і ўяўляе рэдкі тып абароннага культавага будынка, службы ў якім не спыняліся больш як чатыры стагоддзі! Нават у савецкія часы касцёл быў адкрыты. Можа, з-за таго, што ўлады добразычліва ставіліся да мясцовага ксяндза. У вайну ён выратаваў ад немцаў партызана, які стаў пасля вядомым партыйным кіраўніком. На шчасце, усеагульнае змаганне з «опіумам для народа» не закранула камайскі касцёл.

Узводзілі адну з найстарэйшых каталіцкіх святынь нашай краіны ў 1603 — 1606 гадах. Храм уключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Ініцыятарам будаўніцтва быў уладальнік мястэчка Ян Рудомін-Дусяцкі. А вось імя архітэктара невядома. У 1643 годзе пры касцёле заснавалі шпіталь. Падчас руска-польскай вайны 1654 — 1657 гадоў храм згарэў, зводы абваліліся. Касцёл адбудавалі і паўторна асвяцілі ў 1673 годзе. Паўночная вайна 1700 — 1721 гадоў не абмінула Камаі: шведы абстралялі святыню з гармат, будынак сур'ёзна пашкодзілі. Пры ўзнаўленні ў сцяну ўмуравалі шведскія ядры.

У 1726 — 1736 гадах і ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў касцёле з'явіліся роспісы на зводах у выглядзе гронакраслін і кветак. У 1778 годзе з паўднёвага боку да храма прыбудавалі вялікую капліцу з крыптай. Амаль праз стагоддзе храм адрэстаўрыравалі і крыху перабудавалі. Цікавы факт: у 1915 годзе святаром камайскага касцёла быў беларускі паэт Казімір Сваяк.

Дзесяць гадоў таму ўраганам была пашкоджана адна з вежаў. Праз чатыры гады касцёл зноў грунтоўна адрэстаўрыравалі — на радасць усім вернікам і ўсім беларусам, якія любяць і шануюць сваю спадчыну.

**Аляксандр ПЯТРОЎ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага супрацоўніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года

16 +

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
20.07.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1506.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2591

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686